Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 6 (4857) 12 лютага 2016 г.



## *Унікальны здабытак*

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў віншаванне ўдзельнікам XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу і Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час» з адкрыццём. «Для нашага народа кніга з'яўляецца неад'емнай часткай духоўнай, інтэлектуальнай і мастацкай спадчыны, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. — У Рэспубліцы Беларусь 2016 год аб'яўлены Годам культуры. Ён адзначаны такімі знакавымі юбілеямі, як 125-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча, 95-годдзе з дня нараджэння Івана Шамякіна, 120-годдзе з дня нараджэння Кандрата Крапівы. Творы класікаў літаратуры — гэта ўнікальны здабытак, які мы абавязаны беражліва захоўваць і перадаваць будучым пакаленням». Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што форум выкліча непадробны інтарэс як у прафесіяналаў, так і ў вялікай колькасці гасцей, будзе садзейнічаць папулярызацыі якасных і змястоўных літаратурных твораў, прапагандзе кнігі ў маладзёжным асяроддзі, наладжванню ўзаемавыгадных кантактаў і развіццю міжнароднага гуманітарнага супрацоўніцтва.

# Стаць чытачом


Фота Сяргея Нікановіча.

*Падчас выстаўкі-кірмашу.*



Фота БелТА.

*Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч, міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі і намеснік міністра культуры Арменіі Артур Пагасян адкрываюць выстаўку-кірмаш.*

Стаць чытачом проста. Трэба, каб аднойчы трапіла ў рукі такая кніга, якую пражываеш усю ад першай да апошняй старонкі, баішся змарнаваць хвіліну, пакуль не дачытаеш. І калі такая кніжка своечасова трапляе ў рукі, чалавек застаецца чытачом усё жыццё. Гэта адзін шлях. Цудоўны магчымым адкрыццём. Другі — шлях даверу. Калі нехта можа параіць такую кнігу, пасля якой хочацца мяняць жыццё і мяняцца самому. Ці калі ёсць крыніцы, да якіх ставішся з павагай і таму выбіраеш зусім невыпадкова. Выдатна: так прыходзяць патрэбныя кнігі. Трэці шлях: патрэба мысліць (адпаведна, адчуваць сябе жывым), прыводзіць да свядомага і мэтанакіраванага пошуку крыніц мудрасці, сярод якіх ёсць правераныя стагоддзямі і пакаленнямі. Застаецца толькі прыйсці туды, дзе іх будзе найбольшая колькасць. Але можа быць яшчэ адзін шлях, дзе сумяшчаюцца ўсе папярэднія: і выпадак, і парада, і багацце прапановы. Трэба апынуцца ў вызначаны час у пэўным месцы, дзе пануюць кнігі. Напрыклад, завітаць на XXIII Мінскую міжнародную выстаўку-кірмаш. Гаспадараць тут тыя, хто кнігі ствараe. Але да таго моманту, пакуль іх творы не знайшлі сваіх гаспадароў.

— Кніга з'яўляецца не толькі крыніцай ведаў, але і нясе ў сабе магутны гуманітарны пачатак супрацоўніцтва, — адзначыла **міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч**. — У гэтыя дні ў нашай краіне прадстаўлены лепшыя дасягненні айчыннага кнігавыдання і іншых дзяржаў свету. Хочацца, каб традыцыя збірацца ў лютым у Рэспубліцы Беларусь на Міжнародную кніжную выстаўку-кірмаш была лагічным працягам той гуманітарнай прасторы, якая склалася ў нашай краіне, на пляцоўцы міру і стваральніцтва.

Працяг дыялогу і супрацоўніцтва прадугледжаны і для літаратараў розных краін на сімпозіуме «Пісьменнік і час: пераемнасць у літаратуры». Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец пажадаў кожнаму наведвальніку купіць на кірмашы добрую кнігу.

Чытайце на стар. 3

## Пунктырам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага мастака Беларусі Георгія Паплаўскага з 85-гадовым юбілеем. «Вы ўнеслі значны ўклад у развіццё і ўзбагачэнне традыцый станковай і кніжнай графікі. Дзякуючы Вашаму яркаму таленту нарадзіліся сапраўдныя шэдэўры, якія заваявалі прызнанне ў Беларусі і за яе межамі», — гаворыцца ў віншаванні. Як адзначыў Кіраўнік дзяржавы, адзін з прызнаных лідараў нацыянальнай школы графікі Георгій Паплаўскі выхаваў некалькі пакаленняў мастакоў, імёны якіх — гонар айчыннага выяўленчага мастацтва. Прэзідэнт пажадаў юбіляру, каб яго шматгранная дзейнасць і актыўная грамадзянская пазіцыя і ў далейшым заставаліся добрым прыкладам для таленавітай моладзі.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народнага артыста Беларусі Эдуарда Зарыцкага з 70-годдзем. «Справай Вашага жыцця стала служэнне нацыянальнаму музычнаму мастацтву, — гаворыцца ў віншаванні. — Вы стварылі шэраг песень, якія прыбаўляюць паклоннікаў айчыннай эстрады мілагучнасцю, адметным каларытам і зваротам да народных вытокаў. Шмат увагі ўдзяляеце развіццю беларускай кампазітарскай школы, прымаеце актыўны ўдзел у грамадскім жыцці краіны». Кіраўнік дзяржавы выказаў надзею, што сваёй творчасцю Эдуард Зарыцкі і надалей будзе ўзбагачаць скарбніцу музычнай культуры і радаваць слухачоў новымі песнямі.

✔ Дні культуры Арменіі праходзілі ў нашай краіне на гэтым тыдні. Гэта яшчэ адзін плённы вынік выканання праграмы супрацоўніцтва міністэрстваў культуры Беларусі і Арменіі на 2014 — 2017 гады. Дакумент мае на мэце ўстанаўленне прамых кантактаў паміж музеямі краіны, правядзенне абменных гастроляў тэатраў, музычных і харэаграфічных калектываў абедзвюх краін. Прадугледжана правядзенне Дзён беларускага кіно ў Арменіі і Дзён армянскага кіно ў Беларусі.

✔ Міжнародная выстаўка «Радзівілы. Вялікая эпоха князёў» адкрылася ўчора ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. Праект дае магчымасць пазнаёміцца з гістарычнымі падзеямі, у якіх бралі ўдзел прадстаўнікі вядомага роду. Сярод экспанатаў — каларытныя вырабы мастацкага ліцця і коўкі, паліхромныя пліткі. Экспазіцыя прапануе дакументы XVI — XIX стагоддзяў са Слуцкага Свята-Троіцкага праваслаўнага манастыра. Расшыфраваныя тэксты адлюстроўваюць розныя бакі жыцця грамадства. Большасць гэтых архіўных крыніц не прадстаўлялася на публічны агляд.

✔ XXII фестываль «Лютаўскія музычныя вечары» пачаўся ў Пінску. Жыхарам і гасцям горада прапануецца шэсць канцэртаў класічнай музыкі, якія пройдуць у гарадской канцэртнай зале. Больш як 30 таленавітых айчынных музыкантаў гатовыя прадэманстраваць сваё майстэрства аматарам класікі: вакалісты, дуэты, ансамблі, камерны аркестр. На вечары, якім адкрыўся фестываль, песні і рамансы знакамітай польскай спявачкі Ганны Герман выканалі салістка Белдзяржфілармоніі Таццяна Старчанка (фартэпіяна) і салістка Вялікага тэатра Таццяна Траццяк (сапрана).

# Страсці па культуры

## Пра «гарачыя гадзіны» для музеяў і самаакупнасць «Беларусьфільма»

**Чым жылі ўстановы культуры ў мінулым годзе? Якія задачы стаяць перад кіраўнікамі розных ведамстваў сёлета, у Год культуры? Такія пытанні абмяркоўвалі на выязной калегіі Міністэрства культуры, якая праходзіла ў Маладзечне.**

«Установам культуры трэба падыходзіць да працы больш рашуча і творча», — такое меркаванне выказала **намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Наталля КАЧАНАВА**. Асаблівую ўвагу яна звярнула на працу музеяў і прапанавала праводзіць там «гарачыя гадзіны», калі кошт квіткоў значна зніжаецца. Бо лепш, каб у музеі былі наведвальнікі, якія заплацілі няхай не поўны кошт квітка, чым калі б установа ўвогуле пуставала. Як прыклад можна ўзгадаць Нацыянальны мастацкі музей, у якім ёсць дні бясплатнага наведвання. Звяртаючы ўвагу на дзейнасць тэатраў, віцэ-прэм'ер адзначыла, што гледачы ў рэгіёнах заўсёды рады сустрэчы з акцёрамі са сталічных тэатраў, аднак калектывы недастаткова выкарыстоўваюць магчымасці для выездаў. Наталля Качанава падкрэсліла, што пытанне падрыхтоўкі кадраў для сферы культуры патрабуе асаблівай сур'ёзнай увагі:

— У Беларусі для атрымання адукацыі створаны выдатныя магчымасці, а творчы патэнцыял велізарны. Творчых людзей, якія з'яўляюцца багаццем нацыі, пачынаючы ад стыпендыятаў спецыяльнага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі і заканчваючы мэтрамі, трэба шанаваць. Яны павінны быць запатрабаванымі ў сваёй краіне. Бо, на жаль, часта чалавеку трэба выехаць за мяжу, каб стаць папулярным у нас. Так адбывацца не павінна.

Пры абмеркаванні сітуацыі, якая склалася ў айчынным кінематографе, **міністр культуры Беларусі Барыс СВЯТЛОЎ** патлумачыў:

— Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм» ніяк не можа вызначыцца з ідэйна-мастацкімі прыярытэтамі. Таму і не атрымліваецца сфарміраваць канкурэнтаздольныя прапановы, якія будуць годна ўдзельнічаць у рэспубліканскім конкурсе. Большасць супрацоўнікаў яшчэ кіруецца старымі ўяўленнямі пра кінавытворчасць і арыентуецца на засваенне бюджэтных сродкаў, а не на пошук шляхоў выхаду з сітуацыі. Галоўная задача кінастудыі ў 2016 годзе (у першым паўгоддзі) — выйсці на бясстратную працу і арганізаваць фільмавытворчасць.

Варта адзначыць, што ў 2015 годзе пры дзяржаўнай падтрымцы на кінастудыі знята 4 фільмы ў ігравой форме, 8 — у анімацыйнай, 24 — у неігравой форме і 5 летапісных сюжэтаў. Для вытворчасці карцін накіравана амаль 52 мільярды рублёў. Барыс Святлоў таксама звярнуў увагу на працу кінапракатных арганізацый. Наведвальнасць кінасеансаў знізілася амаль на 1,5 млн чалавек у параўнанні з 2014 годам. Пры гэтым расце колькасць прыватных кінапракатных арганізацый.

У сваю чаргу **дырэктар «Беларусьфільма» Ігар ПОРШНЕЎ** распавёў, за кошт чаго студыя сёлета плануе выйсці на самаакупнасць:

— Пры поўнай загрузцы кінастудыі мы здольны рабіць прыблізна шэсць-сем мастацкіх фільмаў у год, засвойваючы 100 — 120 мільярдаў рублёў. Але невялікая пакупніцкая здольнасць беларускіх кінаспажыўцоў не дазваляе акупіць стужку больш як на 35%. Чым жа тады можа зарабіць кінастудыя?.. Галоўнае наша багацце — гэта відэатэка, дзе захоўваюцца фільмы, што выраблялія ў нас з 1929 года да сённяшняга дня. Там налічваецца каля 500 адзінак толькі мастацкіх фільмаў. Каб нам дапамаглі прывесці відэатэку ў парадак, мы маглі б зарабляць на гэтым досыць сур'ёзна і не браць грошы, як цяпер, у дзяржавы. Аднак на сёння з гэтых фільмаў «працуе» толькі 120, бо астатнія не адпавядаюць патрабаванням сучаснай тэхнікі: большасць запісана на плёначныя носьбіты. Дзякуючы Міністэрству культуры і ўраду ў нас ёсць першакласнае абсталяванне для правядзення алічбоўкі. Аднак гэты працэс вельмі марудны, мы працуем, але не так хутка, як хацелася б.

Дадатковыя фінансы плануем атрымаць за кошт скарачэння штату — пераважна адміністрацыйна-гаспадарчых супрацоўнікаў, — таксама пойдзем і на паніжэнне заробкаў. Але вялікую ўвагу мы ўдзяляем таму, каб захаваць унікальныя прафесіі. Ужо ўстаноўлены пэўныя дамоўленасці аб здачы некаторых нашых павільёнаў у арэнду, што таксама дапаможа зарабіць.

На калегіі Міністэрства культуры абмяркоўвалі і стан бібліятэчнай сферы. Барыс Святлоў адзначыў, што ўсяго ў нашай краіне 2800 бібліятэк. Кожны трэці грамадзянін Беларусі на сёння з'яўляецца карыстальнікам гэтых устаноў культуры. Аднак колькасць чытачоў летась паменшылася: канкурэнцыя з боку інтэрнэту. Міністр лічыць, што ўсё адно трэба шукаць шляхі да чытача. У прыватнасці, забяспечыць камп'ютарызацыю ўсіх бібліятэк.

**Ніна ШЧАРБАЧЭВІЧ**

# Мелодыка верша

Цяпер у сталіцы ёсць свой тэатр паэзіі. Адкрыўся ён падчас юбілейнага творчага вечара старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхася Пазнякова ў Цэнтральнай мінскай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы. Юбілейная імпрэза і стала першай пастаноўкай новага тэатра.



Фота Кастуся Дробава.

*Юбіляра віншуе галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка» пісьменнік Уладзімір Ліпскі.*

Падчас мінулагодняй творчай паездкі ў Дагестан, на радзіму Расула Гамзатава, Міхась Пазнякоў наведаў Тэатр паэзіі ў Махачкале. І пераканаўся: добра, калі паэтычнае слова аздоблена тэатральным дзействам, музыкай! Такое меркаванне выказала падчас імпрэзы і прадстаўнік Галоўнага упраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама Марына Ясюк.

Што да юбілейнай урачыстасці… Публіцы быў прапанаваны кароткаметражны відэафільм пра Міхася Пазнякова «Тварыце, людзі, на зямлі дабро».

Адкуль усё пачыналася? З вёскі Забродздзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Вось якімі радкамі паэт апявае сваю малую радзіму: «У Забродздзі пеніцца прысады, / І над Грэзай кружаць журавы. / Я ляцець туды ўсё болей рады — / У радзімы край свой баравы».

Начальнік упраўлення інфармацыі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, член СПБ Уладзімір Макараў, які ўручыў юбіляру віншавальны адрас Міністра абароны, зазначыў: «Паэзія Міхася Пазнякова — гэта пазіцыя беларуса-патрыёта, высокая праўда служэння радзіме».

Паэтычнымі радкамі павіншаваў калегу-творцу галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная» Анатоль Аўруцін. Намеснік дырэктара Выдавецкага дома «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Чарота ўручыў юбіляру дыплом Выдавецкага дома «Звязда». Пераклады вершаў галоўнага героя імпрэзы на курдскую і карацінскую мовы прадставілі паэты Ганад Чарказян і Хізры Асадулаеў. Гучалі песні на вершы Міхася Пазнякова.

Прыцягнула ўвагу і фотавыстаўка, прысвечаная жыццю і творчасці паэта. Аўтар экспазіцыі — айчынны фотамастак Міхаіл Крыжаноўскі. Работы майстра ахопліваюць толькі адзін год дзейнасці пісьменніка — 2015-ы. Але яны яскрава сведчаць пра творчую дзейнасць, літаратурнае жыццё і юбіляра, і сталічнага аддзялення СПБ, якое штогод ладзіць сотні цікавых імпрэз, актыўна падтрымлівае творчую моладзь.

**Яна ЯВІЧ**

# Падарунак закаханым

## падрыхтаваў Брэсцкі акадэмічны тэатр драмы

У Дзень святога Валянціна на сцэне вялікай залы тэатра адбудзецца святочны канцэрт «Новыя імёны сусветнай оперы», у якім возьмуць удзел лаўрэаты міжнародных конкурсаў — брастаўчанка Таісія Засім (сапрана) і саліст Львоўскага нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Міхаіл Малафей (тэнар). Падчас канцэрта гасцей чакае эксклюзіўная праграма: запланаваны арыі з опер «Пікавая дама», «Тоска», «Багема», «Яўгеній Анегін», а таксама італьянскія і неапалітанскія песні. Акампаніраваць выканаўцам у гэты рамантычны вечар будзе сімфанічны аркестр Брэсцкага тэатра драмы пад кіраўніцтвам дырыжора Аляксандра Сасноўскага.

Намеснік генеральнага дырэктара тэатра па інфармацыі і арганізацыі гледача Ларыса Навіцкая паведаміла нашаму выданню пра падрыхтоўку канцэрта і расказала пра наступныя праекты тэатра:

— Ідэя арганізацыі канцэрта нарадзілася ў нашага дырыжора Аляксандра Сасноўскага, які вельмі зацікаўлены ў пошуку маладых, таленавітых людзей. Я спадзяюся, што гэты музычны вечар зможа задаволіць як гледачоў, так і выканаўцаў. Увогуле, у Год культуры тэатр нацэлены на актыўную працу. Канцэрт «Любімым жанчынам прысвячаецца» да жаночага свята рыхтуе маэстра Аляксандр Сасноўскі і яго музыкі. Сёлета жыхароў і гасцей горада чакае некалькі тэатральных прэм'ер. Рэжысёр Цімафей Ільеўскі працуе над п'есай Людмілы Разумоўскай «Дарагая Алена Сяргееўна», а мастацкі кіраўнік тэатра, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Аляксандр Козак у хуткім часе прадставіць спектакль (пакуль з працоўнай назвай) «У дурнях засталіся». Сімфанічны аркестр БАТД таксама парадуе аматараў класічнай музыкі шэрагам канцэртаў з удзелам маладых айчынных і замежных выканаўцаў.

**Вікторыя АСКЕРА**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Стаць чытачом



Фота Кастуся Дробава.

Некаторыя прыступілі ў той жа дзень. Дзядзечка з валізкай разглядаў электронны навігатар, які павінен дапамагчы арыентавацца ў вялікім павільёне. Заадно тыцнуў на праграму: о, прыйдзецца яшчэ прыйсці. На прэзентацыю кнігі пра Уладзіміра Мулявіна выдавецтва «Мастацкая літаратура» можна было і застацца, але як абмінуць, калі на расійскім стэндзе прадставіць «Свячу» Валерыя Залатухіна — яшчэ адзін любімы артыст… Тут жа побач у праграме заўважаю творчую сустрэчу з Андрэем Жавалеўскім і Яўгеніяй Пастарнак, беларускімі пісьменнікамі, якіх запрасілі расіяне. І яшчэ прывезлі кнігі беларускай нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч, выдадзеныя ў Расіі. Ішла па павільёне і думала, што агульныя асобы ў культуры ёсць у нас, таксама, як яны былі і ў папярэднія эпохі, прычым, з рознымі народамі.

Чаго здзіўляцца, што на стэндзе Украіны выстаўлены, напрыклад, кнігі «Князі Астрожскія», «Князі Радзівілы» (на ўкраінскай). Культура — унікальная з'ява: аб'ядноўвае, але і вылучае адметнасці. Калі ласка, і такая кніга ёсць: «Культура. Ілюстраваная энцыклапедыя Украіны». Кожная краіна пастаралася быць асаблівай, але пазнавальнай. Вялікабрытанія прываблівала інтэрактывам «кніга на выбар у падарунак». А яшчэ вечным Шэкспірам і загадкавым Льюісам. Стэнды прапаноўваюць гульні і віктарыны, нават сэлфі-конкурсы: кнігу ў наш час трэба ўмець прапанаваць. Таму так сур'ёзна зноў арганізавала свой павільён Францыя: шэрагі лавак для сустрэч. І магчымасць набыць кнігі па таніх дэмакратычных коштах, што думаеш: торба б не зашкодзіла.

Татам і мамам дакладна. Для цікаўных дзяцей, няўрымслівых, маленькіх і не вельмі — багаты выбар. Айчынных кніг і нават замежных. Дарэчы, у перакладзе на беларускую дзіцячыя кнігі варта шукаць на сайце Швецыі. Побач Фінляндыя, дзе свежае перакладное выданне эпасу «Калевала»… Гэта патрэбна чытачам: і нашы выдавецтвы прапануюць свае праекты перакладной літаратуры. Прыкмеціла зборнік «І боль, і прыгажосць» выбраных твораў Еўропы і Амерыкі. А на стэндзе Выдавецкага дома «Звязда» багата кніг з перакладамі з самых розных моў свету: іх прадстаўляе праект «Сугучча». І ўсё ж… Шукаю кнігі нашы, для душы, якую ніхто не адчуе лепш, чым паэт ці празаік маёй радзімы. Самае свежае выданне — паэтычны зборнік «Разняволенасць» Тацціяны Сівец. Вызначае стан, калі ты можаш быць сабой, — дома. Можаш не хаваць пачуццяў. Як Наталля Міцкевіч ва ўспамінах «Доўгая дарога (ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа)». Класікі, кніжкі якіх калісьці рабілі мяне чытачом. А колькі яшчэ таго, што не прачытана…

**Ларыса ЦІМОШЫК**
**Працяг тэмы**
**ва ўкладцы «Кніжны свет»**

*У літаратурным асяродку*

# Геаграфія сустрэч

Днямі ў нашу сталіцу «прыехаў» калінінградскі часопіс «Балтика». У Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна выданне прадставіў мастак і выкладчык Раманас Барысавас, які сёння жыве ў літоўскай Клайпедзе.

Падчас імпрэзы «"Балтика" ў гасцях у "Нёмана"» спадар Раманас урачыста перадаў асобнікі «Балтики» супрацоўнікам рэдакцыі часопіса «Нёман» — намесніку галоўнага рэдактара Уладзіміру Мазго ды рэдактару аддзела прозы Алегу Жданy. Літоўскі мастак прадэманстраваў публіцы рэпрадукцыі сваіх акварэляў.

Сябры беларускага таварыства «Уздым» (Латвія), у тым ліку латвійскі паэт Станіслаў Валодзька, наведалі горад Міёры Віцебскай вобласці. Сустрэчу, арганізаваную супрацоўнікамі Міёрскай бібліятэкі ў мясцовай школе мастацтваў, вяла маладая паэтэса, сябар СПБ Алена Басікірская.

У межах імпрэзы адбыўся канцэрт, дзе прагучалі песні на словы Станіслава Валодзькі. Паэт чытаў свае вершы, адрасаваныя дарослым і дзецям. Галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Міёрскага райвыканкама Ірына Кубарка ўручыла гасцям падарункі ад мясцовых майстроў. А сябры «Уздыму» перадалі ў дар гаспадарам кнігі і беларускія газеты, выдадзеныя ў Латвіі.

Віншаванні са 150-гадовым юбілеем днямі прымала Бараўская сярэдняя школа, што ў Дзяржынскім раёне Мінскай вобласці. Сярод выпускнікоў 1949 года — Анатоль Сабалеўскі. Доктар мастацтвазнаўства, прафесар. З 1964 года — член Саюза пісьменнікаў СССР (пазней — член СПБ). У 1980-я — рэктар Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. У дар роднай школе А. Сабалеўскі перадаў частку асабістай бібліятэкі.

Пра тое, як калектыў бараўскай школы шануе памяць пакаленняў, распавёў былы дырэктар гэтай навучальнай установы, член СПБ і Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы паэт Барыс Савінаў. Дарэчы, у свой час Барыс Фёдаравіч арганізаваў тут школьны гісторыка-краязнаўчы музей, які атрымаў званне народнага. Успамінамі і ўражаннямі пра гады вучобы падзяліўся выпускнік Бараўской сярэдняй школы 1963 года, першы намеснік старшыні Выканаўчага камітэта — выканаўчага сакратара СНД Уладзімір Гаркун, які нядаўна атрымаў званне Ганаровага грамадзяніна Мінскай вобласці.

Паэтычную сустрэчу з клецкімі ды уздзенскімі калегамі зладзілі сябры дзяржынскага літаратурнага аб'яднання «Выток» на чале з кіраўніком Наталляй Лебядзеўскай. Прывітальнае слова ад Дзяржынскага райвыканкама агучыў намеснік начальніка аддзела па ідэалагічнай рабоце Яўген Скарабагаты. Старшыня Дзяржынскага раённага аб'яднання прафсаюзаў Анжаліка Прахарэвіч адзначыла падтрымку талентаў прафсаюзамі, любоў да паэзіі выказала радкамі ўласных вершаў. Дзяржынцы пазнаёмілі гасцей з выдадзеным раённай бібліятэкай зборнікам твораў маладых паэтаў. Маладое пакаленне на сустрэчы прадставіла паэтэса Ларыса Коршун.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**13 лютага** — *на гала-канцэрт беларускай паэзіі і песні, які пройдзе на пляцоўцы каля Ратушы (пл. Свабоды) у межах рэспубліканскай акцыі «Беларусь, я люблю цябе», прысвечанай Міжнароднаму дню роднай мовы. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**16 лютага** — *на літаратурнае свята ў дзіцячую бібліятэку № 1 (вул. Гарадскі вал, 3). Мерапрыемства адбудзецца ў межах акцыі «Сямейнае чытанне». Пачатак а 14-й гадзіне.*

**16 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтамі Генадзем Пашковым, Казімірам Камейшам, Інай Фраловай, Ганнай Чумаковай, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы. Імпрэза адбудзецца ў Мінскім гарадскім адукацыйна-культурным цэнтры «Лідар» (пасёлак Ждановічы). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**17 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Вольгай Норынай «Роднаму слову гучаць!» Мерапрыемства пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**17 лютага** — *у публічную бібліятэку № 7 імя Я. Коласа (вул. Пляханава, 97/4) на прэзентацыю кнігі вершаў народнага паэта Дагестана Магамеда Ахмедава «Горная ліра» ў перакладзе на беларускую мову. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**18 лютага** — *на літаратурнае свята, прысвечанае 120-годдзю з дня нараджэння Кандрата Крапівы. Імпрэза ладзіцца ў Акадэмічнай бібліятэцы імя Я. Коласа (вул. Сурганава, 15). Пачатак у 13.15.*

**Віцебскае абласное аддзяленне**
**Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**18 лютага** — *на тэатралізаваную прэзентацыю казкі паэтэсы Тамары Красновай-Гусачэнка «Навагоднія прыгоды Марусі». Імпрэза адбудзецца ў Палацы культуры г. Барань Аршанскага раёна. Пачатак у 11.00.*

**19 лютага** — *на літаратурную вечарыну «Жыве роднае, гаваркое», прымеркаваную да Дня роднай мовы, у Віцебскую гарадскую бібліятэку імя І. Крылова. Пачатак а 15-й гадзіне.*

## Дайджэст

• Сумесны праект адной са структур сістэмы *Google* і брытанскага выдавецтва *Visual Editions* прэзентаваў першыя вынікі працы. Лабараторыя *Creative Labs*, якая займаецца рэалізацыяй праекта, «выдала» дзве кнігі. Яны адрозніваюцца як ад звыклых папяровых, так і ад звычайных электронных. Першая — кніга пра котак і сабак, пабудаваная ў выглядзе дзённікаў двух жывёл. Чытач абірае, які з дзённікаў прыйшоўся яму больш да спадобы, і выбарам істотна ўплывае на развязку твора. Другое эксперыментальнае выданне дазваляе падарожнічаць па вуліцах розных гарадоў свету, разам з тым адкрываючы для сябе шмат цікавай і пазнавальнай інфармацыі. Абодва выданні каштуюць няшмат — не больш як чатыры долары. Аднак доступ да іх маюць толькі карыстальнікі браўзера *Chrome*.

• Штат Вашынгтон распачаў адукацыйную праграму «Кнігі ад нараджэння». Праграма, разлічаная на дзяцей у літаральным сэнсе ад нараджэння і да пяці гадоў, працуе на тое, каб чытанне стала неад'емнай часткай жыцця чалавека з самага маленства. Кожнае дзіця з азначанай катэгорыі будзе штомесяц атрымліваць кнігу, якая адпавядае яго ўзросту. Таксама праграма прадугледжвае забеспячэнне сямей з маленькімі дзецьмі самымі рознымі выхаваўчымі дапаможнікамі і навучальнай інфармацыяй, у чым дапамога сетка гарадскіх бібліятэк Вашынгтона.

• Адразу 450 навукоўцаў Расіі падпісалі ліст супраць рэформ Ленінскай бібліятэкі. Ліст адрасаваны не толькі кіраўніцтву кніжніцы, але і ў Крэмль — саветніку прэзідэнта Уладзіміру Талстому. Збольшага незадавальненне навукоўцаў выклікае электронны каталог бібліятэкі, у якім выяўлена шмат недакладнасцей, з-за чаго немагчыма адшукаць патрэбнае выданне. Што да звыклага карткавага каталога, ён не абнаўляўся дзясятак гадоў і незваротна састарэў. Гэтаксама навукоўцы пратэстуюць супраць ліквідацыі аддзела рускага замежжа. Уладзімір Талстой вельмі здзівіўся, атрымаўшы ліст навукоўцаў, бо шчыра лічыў, што ў Ленінцы парадкі амаль ідэальныя. Саветнік абяцаў як мага хутчэй разабрацца з праблемай.

• Старажытныя манастыры Афона заключылі дамову з грэчаскім холдынгам *Hellenic Telecommunications Organization*, які спецыялізуецца на тэлекамунікацыях: унікальныя архівы дваццаці манастыроў цяпер будуць алічбаваныя. Па ўмовах кантракта плануецца апрацаваць 900 тысяч рукапісаў, 450 тысяч экзэмпляраў друкаваных выданняў, каля 550 тысяч архіўных дакументаў, якія ўяўляюць гістарычную каштоўнасць. Манастырскія бібліятэкі даўно цікавяць гісторыкаў і літаратуразнаўцаў, даследчыкаў рэлігіі і архітэктуры. Фонды, якія захоўваюцца на Афоне, разглядаюцца не толькі як скарбніца бясцэннай інфармацыі, але і ў якасці значнага кампанента развіцця сусветнай культуры і гісторыі.



Мікола МЯТЛІЦКІ

## Збор чабору

На схіле чэрвеня чабор вабраўся ў сілу,
Квятуе на паляне, сонцам грэтай,
Пакуль яго спякота не скасіла
Задушнага, засушлівага лета.

Гудуць чмялі над цветам басавіта,
Нясуць узятак шчодры ў сотаў спраты.
Мядовым пахам раніца наліта,
І церпкім ім гушчар лясны працяты.

І вось расу павыпілі прамені,
І мы з табою на паляне бору.
Блакітны цвет сцінаючы у жмені,
Стрыжэм загрыўкі-кусцікі чабору.

Зімой, калі хмурынамі укрыта
Над горадам астылым неба гляне,
Чабор напоем свежым, духавітым
І мрояю аб цёплым леце стане.

## Вілія

Ёсць рэкі на зямлі куды шырэй, глыбей,
Ды мне мілей твая лясная прыгажосць.
Тварылі гэты цуд старанні добрых фей.
І вось — віруе плынь і сэрцу шэпча
штосьць.

Цячэш, мая рака, з даўно забытых дзён
У дні, якім яшчэ заняцца над зямлёй.
І я малю твой лёс, каб так было спакон,
Каб хтось і ў далі той ступіў на бераг
твой.

Ён скажа: шмат вады з дзён даўніх
уцякло,
Зірне на плынь-брую паглядам юнака.
І ўскіне па-над ім узмашыста крыло
Твой бусел-клекатун, павечная рака.

І тут, дзе я цяпер, вітаючы зару
Над хваляю тваёй, узрушаны, стаю,
Бясконцая, як ты, прабудзе Беларусь,
П'ючы жывой вады прачыстую брую.

О, як жадаю я на сходзінах зямных,
Каб так яно спрадвек пад небам і было.
Каб хвалі плёскат чуў тут чалавечы
слых,
Каб секла гладзь вады парыўнае вясло.

Кранае плынь тваю празяблая рука,
Царуе навакол дасветны супакой.
З даўно забытых дзён цячэш, мая рака,
У дні, якім яшчэ заняцца над зямлёй.

## Радоўка

Людміле

Свістам пугі страсянула хмару —
І паліўся жвавы, спорны дождж.
І кароў на быстрыцкім папары,
Бы ў маленстве, пасвіш басанож.

Кроплі з лёту падаюць на плечы,
Студзяць пот гарачы на ілбе.
І жаніх калішні, хмыр старэчы,
Зыркае з-за плоту на цябе.

Даравалі ніяк усё не можа,
Папікае: замуж не пайшла!
Спынішся, падумаеш: «О, Божа,
Усё ж якой прадбачлівай была!

Ну які, п'янчуга, быў бы мужам?
Лепш адной, як з гэтакім, пражыць».
Крочыць статак з пашы…
Услед па лужах
Зайчык з даўняй памяці бяжыць.

***

У Дубнікі да Генрыка Сянкевіча
Рушыў я дарогай палявой.
Панская калішняя аселіца
Пырнікам забіта, крапівой.

Дом цагляны выбітымі вокнамі
Смутна пазірнуў, як хмуры дзед.
Толькі дзверы крэкнулі, бы войкнулі.
Не чутно ні брычак, ні карэт.

Пуста тут. Усё часам пакалечана —
Тлен жылля і адзічэлы сад.
Не шануеш памяць, Астравеччына,
І пра тое ведаеш наўрад,

Што калісьці тут у ранкі летнія
Гасцяваў адзін варшаўскі пан,
У часіны ціхія дасветныя
Дапісаў, натхнёны, свой раман.

І раман той, славаю азораны,
Крочыць сцежкай часу праз вякі.
З самымі праслаўленымі творамі
У адной кагорце «Крыжакі».

Смутна вецер над сядзібай хліпае,
То пачне надрыўнае выццё.
Старадаўняю алеяй ліпавай
Падступіла блізка забыццё.

***

На вудаўё прысела птушка ўранку,
Калі рыбачыў пад старою вольхай,
Аж сэрца затрымцела з неспадзеву,
А вочы прыгажосцю упіліся.

Кароценькія крыльцы, хвост кароткі,
Блакітны верх, з адлівам зелянцовым,
Чырвоныя ля пільных воч палоскі
І чорная, ухвацістая дзюба.

Баюся зварухнуцца, спудзіць рухам,
Трымаю асцярожна і гадаю,
Усіх вядомых птушак перабраўшы,
Дзівуюся: не бачыў раньш падобнай.

Дастаў даведнік, некалі прыдбаны,
Бясконца раз ужо дасюль раскрыты.
Гартаю і на здымках
каляровых
Шукаю птушку
дзіўную — знайшоў!

Пазнаў цябе, нязнаны
зімародак!

***

Анікога. Не гукай,
не вернуцца.
Толькі котліщчаў
падмуркі-валуны.
Ды сады здзічэлыя
у верасні
Скінуць яблык
некрануты наліўны.

Знікла вёска.
З жыхарамі падалася
На зарэчныя жвірыстыя
клады.
Толькі назва на ўспамін
і засталася,
І цяпер яна як горкі знак
бяды.

Толькі хата ацалелая над рэчкай
У паўзмроку зырка бліскае акном.
Лета пахне нераспелаю парэчкай,
З агародаў густа цягне палыном.

А жыхарцы заўтра будзе дзевяноста,
Год які стаіць адна каля жытла.
І самоціца душой начамі — вёску,
Куды замуж узялі, перажыла.

Лес сцяной густою блізка падступае,
Ліпа з даўняе дзявоцкае пары,
Як і помніцца, высокая такая,
Усё стаіць нязрушна-вечна пры двары.

Калі час у далі дальнія скранецца
Развітальнаю сыходнаю хадой,
Толькі ліпа адзінотна застанецца
Шапацець над рэчкі плыткаю вадой.

## Восень

Вось і ты, мая восень, дарогамі пыльнымі
Прыблукала, на беразе стала рачным.
Дол сухменем нясходным няшчадна
знясілены.
Смутна зоркі маркоцяцца ў небе
начным.

Хутка Балтыка дзьмухне вятрамі
халоднымі,
Павядзе над зямлёю чароды хмурын.
І ў нясходнай імжы будуць
зырка-пяшчотнымі
Пераздзблыя, кметныя гронкі рабін.

Потым сонца з-за хмар падмарожаных
выгляне,
Запраменіцца ярка ў раскошы снягоў.
Ды рачная бруя на марозе не выстыне,
Захаваная ў футра крутых берагоў.

Будзе лапік над лесам святлістае просіні
Разгарацца на ўлонні кароткага дня.
Сцяг упарта трымаць нескаронае восені
Будзе, лісцем шапочучы, стойкі дубняк.

## Кальчуга

Аб яе вогненныя маланкі
Красалі дзіды і пікі.
Сонцамззяючы ў стыні ранку,
Ярасці чула ўсклікі.

Грудзі ваярскія захінала
Ад удару мяча булатнага.
І вось, праз стагоддзі, адно і стала
Для лёжкі музейнай прыдатная.

Ляжыць, счэпленая звёнамі туга, —
Зырціся, цікаўныя людзі!
Хто той, што скінуў цябе, кальчуга?
Дзе прах яго вечна прабудзе?

Магчыма, вярнуўся з грунвальдскай сечы
Або з татарвою секся?
Уздзеўшы кальчугу на голыя плечы,
Дзідай цаляў у сэрца

Вершніку спешнаму, што рукою
Меч свой узнёс крывавы.
Змоўкла ляжыш у музейным пакоі
У бліках забытай славы.

І ні адзін не раскажа вятруга
Аб даўняй ваярскай сечы,
Дзе ты, забытага продка кальчуга,
Астатні чула ўздых чалавечы.



Фота Кастуся Дробава.

***

Калі вецер злосна засвішча
І неба накрые імгла,
Згадаецца, што папялішчам
Нядаўна Радзіма была.

Скурэлыя хатаў астанкі,
Руіны яе гарадоў,
І першыя з зоркамі танкі
Пад вокліч збалелых удоў

У наступ ішлі па руінах
На дымных дарогах вайны.
Ніколі ў людскіх успамінах
Рух гэты не спыняць яны,

Назад не павернуць ніколі,
Хто б быў там ці «супраць», ці «за».
Ды сціснецца сэрца ад болю,
І ўздрыгне на вейцы сляза,

Як вецер сіроча засвішча,
Як неба укрые імгла,
Згадаўшы — скразным папялішчам
Нядаўна Радзіма была.

***

Пастарэеце, хлопцы, праз трыццаць
гадоў
І бароды займееце белыя-белыя.
Паглядзець бы праз далеч на гэтых
дзядоў,
Ці такія, як сёння, адчайныя, смелыя?

Так нясецца, як вецер — сарві-галава.
У аўтобус уціся, працуючы локцямі.
І спяшае куды? Трутняў гэткіх жа два,
Сабутэльнікаў, ледзьве з пахмелля
не лопнулі.

Іх галовы трашчаць. Ноч куцілі-пілі.
І заняты былі несупыннай бяседаю.
Смакавалі: з выгоднай ліхвой прадалі
З-пад крыса ўзнагароды ваенныя дзедавы.

Дачакаліся смерці… Ён марыў аб тым,
Што жыццё на пажарышча-котлішча
вернецца,
Што нашчадкі яго — эх,
як верыў ён ім! —
Тут не згубяць ніколі сумлення і вернасці.

***

Залічыце ў памятныя даты:
23 мая,
Год 1910-ты.
Купала сціло сцінае,
Пакоя прыцьмелая ціша.
«Курган» піша.

Начны за вокнамі Піцер.
Лямпы настольнай святло.
Купала рукой пот выцер,
Потым адклаў сціло.
Зноў вусны яго паўтораць:
«Курганы шмат аб чым нам гавораць».

На гэты курган здзірванелы
Праз буры наступных год
Узыдзе душой знямелы,
Бяспраўны яго народ.

І зрокам душы загляне
У гісторыі ўласнай глыб.
І духам акрэпшы, устане
На папялішчах сяліб.

А сёння… Начная ціша…
Гусціца неўскі туман.
Піцер… Купала піша
Свой бессмяротны
«Курган».

## Прызба

Апошняя, адзіная ў сяле —
Адарчына укоўзаная
прызба.
Мінула колькі год ужо, але
Яна і сёння, быццам часу
прызма,

Праз шкло якой мінулае
відно —
Нясцёртае, трывучае,
жывое:
Андаракоў згрубелае сукно,
І столкі — палатняныя
сувоі,

І ручнікоў натканых
белата,
Сурвэтак і настольнікаў
карункі.
І зноўку вырываецца
з гурта
Адарчын голас
басавіта-стрункі:

— А от наткала! Дужасці стае.
Зірніце, дзеўкі, на мае багацце!
І прызбы мала. У гады мае
Шчэ, склаўшы рукі, не сядзіцца ў хаце.

Бярыце, даспадобы што каму.
На памяць дзецям аддасце калі-та.
Натку яшчэ за сцюжную зіму,
Калі не возьме на клады Мікіта.

— Ты што, Адарка, і свайго стае, —
Ёй гаварылі ўсцешныя кабеты,
І пальцамі — усе да аднае —
Абмацвалі скарб самачынны гэты.

І вохкалі здзіўлёна: — Вот узор!
А тут, глядзіце, дзівата якая!
Гляджу на прызбу. Бы чародка зор
З нябёс высокіх на зямлю злятае.

Даўно магільны пограб на кладах —
Згарнула рукі ўвішныя Адарка.
А прызба там, у страчаных гадах,
Скарб прада мною развінула ярка.

І часу плынь няспынліва цячэ,
Усходзіць ранкам сонца агнявое.
Гляджу на прызбу. І сягоння тчэ
Адарка з зораў палатно жывое.

Не прытаміцца ткалля нікалі,
Не складзе рук ссамочаных без працы.
І тыя дні, што ў вечнасць уцяклі,
Яе узорам зырка разгарацца.

# Перакрыжаванні лёсаў

Сяргей ДАВІДОВІЧ



*Апавяданне*

Сям'я Ігната Галавача — сам Ігнат, яго жонка Зося і дзве дачкі, старэйшая Ганна і малодшая Марыся, — жылі ў звычайнай драўлянай хаце, на самым канцы вёскі Лекараўка.

Як правіла, назвы населеных пунктаў звязаны нейкім чынам з колішнім родам заняткаў жыхароў альбо з жыхаром таго ці іншага населенага пункта. Вось і ў Лекараўцы, пэўна, хтосьці калісьці займаўся лекамі альбо жыў знаны ў тыя часы лекар. Адтуль і назва.

Вёска мала чым адрознівалася ад навакольных. Праўда, была адна акалічнасць, якая змяніла прывычны лад жыцця вяскоўцаў і само аблічча Лекараўкі: праз вёску праклалі бойкую шашу, якая звязала сталіцу з абласным цэнтрам.

Гэта псавала настрой Галавачу тым, што яго хата, колісь утульна ўладкаваўшыся наводшыбе, раптоўна апынулася ля самай аўтамабільнай мітусні, якая не сціхала ні днём, ні ноччу. У дадатак да ўсяго насупраць хаты зрабілі аўтобусны прыпынак, што таксама не спрыяла ўтульнай цішыні.

Але з пераменамі мусіш мірыцца.

Мірыўся Ігнат і з тым, што старэйшая дачка Ганна вось ужо тры гады як вучылася ў Мінску ва ўніверсітэце на юрыдычным факультэце і жыла ў інтэрнаце: дзіця простых вяскоўцаў будзе юрыстам!

Марыся яшчэ вучылася ў дзясятым класе мясцовай сярэдняй школы і з далейшым жыццёвым кірункам пакуль не вызначылася.

Сам жа Ігнат і яго жонка Зося працавалі ў калгасе. Ён — на трактары, яна — даяркай на ферме.

Бяда, як звычайна, прыйшла нечакана.

Ганна патэлефанавала і сказала, што прыедзе ў нядзелю першым аўтобусам. Прыедзе толькі на адзін дзень, а раніцай наступнага дня — назад у Мінск. Папярэдзіла бацькоў таму, каб яны выпадкова не ад'ехалі куды-небудзь па сваіх справах.

Прыезд Ганны быў для бацькоў заўсёды святам. Зося ў нядзелю раней прапаліла печ і паставіла ў яе любімую дачушкіну страву — бабку.

Раніцай, яшчэ быў прыцемак, Зося выйшла падмесці ля ганка. Да аўтобуса заставалася з паўгадзіны, і гаспадары не спяшаліся ісці праз шашу на прыпынак — час яшчэ ёсць.

Але аўтобус, які звычайна прыпазняўся, гэтым разам падкаціў раней.

Зося кінула венік і толькі паспела крыкнуць:

— Ігнат! Аўтобус ужо тут. Паспяшайся!

Ігнат нават не паспеў выйсці з хаты, як Ганна паказалася з-за аўтобуса і радасна гукнула:

— Мама!

Яна імкліва кінулася праз шашу да маці і… была збіта сустрэчнай машынай.

Зося штосьці страшэнна выкрыкнула і кінулася да дачкі, якая нерухома ляжала пасярэдзіне шашы. Побач з ёй, у лужыне крыві, былі раскіданы бананы, булкі, паперы, рэчы.

А машыны як і не было.

***

Васіль працаваў слесарам на аўтабазе, халасцякаваў. Яму толькі 24 гады споўнілася, таму працавалася лёгка, без напругі.

Хлопец карыстаўся маладосцю спаўна, як і большасць яго сяброў-аднагодкаў. Дыскатэкі, сустрэчы ды шумныя кампаніі. І, вядома ж, дзяўчаты! Усё мільгацела цудоўным калейдаскопам, весела карагодзіла…

На адной з такіх бесклапотных дыскатэк Васіль пазнаёміўся з незвычайнай, як яму падалося, дзяўчынай. Апранутая «некрыклівва», з густам. Прывабны сваёй натуральнасцю твар. Ды і танчыла, у адрозненне ад большасці моладзі, без крыўлянняў і выбрыкаў, з нейкай унутранай самапавагай і годнасцю.

Васіль рашуча «падруліў» да загадкавай незнаёмкі, запрасіў на танец і з месца ў кар'ер прадставіўся:

— Васіль! Дазваляю без імя па бацьку.

Дзяўчына аджартавалася:

— Марыся Ігнатаўна! Дазваляю без Ігнатаўна!

Васіль быў трохі нападпітку, што надавала яму смеласці.

— А вы тут адна?

— Не, я з сяброўкай.

— Сяброўка не лічыцца! — усміхнуўся Васіль. — Я меў на ўвазе хлапца-малайца.

Марыся паказала характар:

— Калі для вас мая сяброўка не лічыцца, чаму вы павінны лічыцца для мяне?

Васіль разгубіўся. Пасля паўзы ўсё ж адказаў:

— Ого! З вамі, я бачу, трэба кіраваць языком, як машынай у галалёд.

Дзяўчына ўсміхнулася:

— А вы, пэўна, шафёр, калі параўналі язык з кіраваннем машынай?

Васіль востра адчуў сваю малаадукаванасць. У гэты адказны момант хацелася назвацца інжынерам альбо настаўнікам, а яшчэ лепей — артыстам. Павагаўшыся, выдыхнуў:

— Я — слесар… Аўтаслесар, працую на аўтабазе. Але я мару пра вучобу…

Марыся таксама ўздыхнула:

— Шчыра кажучы, і я мару паступіць ва ўніверсітэт — на юрыдычны факультэт.

У Васіля адлягло ад сэрца. Аказваецца, што і яго суразмоўца мае толькі сярэднюю адукацыю. Яны ў гэтым аднолькавыя.

— А чаму менавіта на юрфак? — пацікавіўся Васіль.

Марыся ўспомніла старэйшую сястру Ганну, якая, загінуўшы пад коламі машыны, так і не паспела атрымаць вышэйшую юрыдычную адукацыю, і ледзь чутна адказала:

— Так трэба…

Васіль праводзіў Марысю з дыскатэкі дадому. Хлопец адчуваў нейкі невядомы дагэтуль душэўны ўздым і безупынку распавядаў спадарожніцы пра свае жыццёвыя планы.

— Я хачу атрымаць — і атрымаю! — вышэйшую адукацыю і як мінімум буду дырэктарам нашай аўтабазы.

— А як максімум? — усміхнулася Марыся.

— Як максімум? — Васіль запнуўся. Ён пакуль не прыдумаў, на якую высокую пасаду яму замахнуцца. — Там пакажа жыццё.

Каб перавесці размову на іншую, больш прыемную тэму, ён шчыра прызнаўся:

— А я вас адразу заўважыў сярод мноства дзяўчат. Вы зусім не такая, як яны…

— А якая?

Васіль пачырванеў.

— Не ведаю… Я вас зусім пакуль не ведаю, але вы… вы мне адразу спадабаліся.

— А вы мне не! — сур'ёзна заявіла яна.

Васіль ад нечаканасці ажно спыніўся. Потым спалохана спытаў:

— Чаму?!

Марыся зноў сур'ёзна і прамалінейна адрапартавала:

— Вы нападпітку, і гэтага дастаткова, каб не падабацца.

— А-а, вось у чым справа! — з палёгкай адказаў ён. — Дык не я адзін, а ўсе хлопцы выпіваюць для весялосці.

— Тым больш вы мне не падабаецеся, што спасылаецеся на іншых, — рашуча выказалася дзяўчына. — Вось вы мне толькі што сказалі, што я не такая, як усе дзяўчаты, а самі, аказваецца, збіраецеся жыць па прынцыпе "як усе". А што, калі заўтра хлопцы пачнуць вытвараць непрыстойнасці? Вы зноў пачнеце паводзіць сябе «як усе»?

Васіль адчуў тупіковасць свайго становішча. Ён не ведаў, як з гэтага выкараскацца. Дзяўчына сапраўды аказалася «не як усе». Яна яму спадабалася, і ён вельмі баяўся адштурхнуць сваёй недарэчнасцю.

— Я… Я, разумееце, Марыся, увогуле непітушчы… — замармытаў Васіль. — Гэта толькі сёння. Абяцаю, што ніколі не дазволю сабе такога. Калі гэта адзіная прычына, па якой я вам не падабаюся, лічыце, што яе больш не існуе.

***

Бацькі Марысі пасля той жудаснай трагедыі жыць далей у Лекараўцы не маглі. Роднае дзіця загінула насупраць хаты — лічы, пад самымі вокнамі.

Зрабіў крок на двор — і зноўку ажывае страшнае відовішча: пасярод шашы распластанае нежывое цела дачушкі. Кожны божы дзень.

Галавач прадаў хату і пераехаў з сям'ёй у Скідзель, дзе з жонкай уладкаваўся працаваць на мясцовы цукровы завод.

Марыся, скончыўшы школу, падалася ў Гродна — працаваць на абутковую фабрыку. Да жыцця ставілася з адказнасцю. Хацелася пражыць і за сябе, і за Ганну, якой не стала два гады таму…

І вось сяброўка ўгаварыла Марысю пайсці за кампанію на дыскатэку.

— Не вечна ж табе, Марыська, насіць у сэрцы жалобу па сястры — жыццё працягваецца…

Марыся горка ўсміхнулася:

— Я і працягваю жыць. А жалобу ў сэрцы буду насіць заўсёды.

Пайсці з сяброўкай дзяўчына пагадзілася…

Шмат падзей кіруе нас па заблытаных лабірынтах. Неўспадзеўкі, адным наведаннем дыскатэкі, Марыся крута змяніла свой лад жыцця. Цяпер кожны новы дзень пачынаўся з чакання чагосьці хвалюючага, прыемнага, незвычайнага.

***

Ішоў час. Васіль і Марыся, здавалася, не маглі пражыць і дня адно без аднаго. Яны любілі ў вольны час прагульвацца па прыгожых вуліцах старога Гродна, асабліва па брукаванай вуліцы імя Ажэшкі. Абавязкова заходзілі ў гарадскі парк. І ўсё ж любімым месцам быў для іх высокі, стромкі бераг нетаропкага, разважлівага Нёмана, з яго вечна загадкавай плынню. Тут ім светла і ўзнёсла марылася. Тут, над велічнай ракой, іх каханне здавалася вечным, бясконцым. Яны ведалі, што іх узаемаадносіны падыходзяць да лагічнага і вельмі жаданага працягу — да шлюбу.

Ведалі пра гэта і бацькі Марысі, і бацькі Васіля, з якімі ён жыў у Гродне.

У адзін з цёплых вечароў, седзячы на высокім беразе Нёмана, Васіль спытаў:

— Чаму, Марыська, тваe вочы так часта наведвае сум? Што цябе непакоіць?

Дзяўчына маўчала. А Васіль працягваў дапытвацца:

— Я ж не чужы табе. Падзелім цяжар перажыванняў, і табе будзе лягчэй.

Марыся падняла на Васіля поўныя слёз вочы.

— Сяджу тут з табой шчаслівая і закаханая… А мая родная сястра, пэўна, не паспела ні разу вось так пасядзець…

— А што з ёй здарылася?

Марыся ціха прамовіла:

— Ужо два гады, як загінула…

— Ты ніколі не расказвала мне пра гэта.

— Усё адкладвала, не хацела псаваць табе настрой. Няхай гэты страшны ўспамін будзе для яе нашым запрашэннем на вяселле. Цяпер не толькі я, не толькі мае бацькі, але і ты, Васілька, будзеш у думках уяўляць яе за нашым вясельным сталом. Гэта яна… яна першая павінна была зведаць такое шчасце…

— А як яна загінула?

— Яе збіла машына… Насупраць нашага дома… На вачах у мамы…

— Дзе?! — усклікнуў Васіль. — У якім месцы?

— Мы тады жылі ў вёсцы Лекараўка. Ты не ведаеш…

Васіль застагнаў. Ен упаў долу і ўголас заплакаў. Шалёна біў кулакамі па зямлі.

Марыся спалохана глядзела:

— Вось чаму я не хацела табе пра гэта расказваць, Васілька. Ведала, што і цябе гэта балюча параніць…

Васіль рэзка сеў. Марыся жахнулася:

— Вой! На цябе страшна глядзець! Супакойся! Не трэба так — яе не вернеш…

Вочы Васіля гарэлі ліхаманкавым агнём. Ён расціснуў збялелыя вусны і глуха прамовіў:

— Гэта я… Я… Я…

— Што ты? — спалохалася Марыся.

— Я забіў тваю сястру… Я…

Марыся замерла.

— Ты здурнеў?

— Я забіў тваю сястру…

— Як гэта — ты? Яе ж забіла машына.

Васіль з болем зірнуў на сваю каханую і прамовіў:

— Кіраваў той машынай я. Памятаю, як з-за аўтобуса нечакана нехта выскачыў, я адчуў глухі ўдар. Я не бачыў, хто гэта быў. Першае, што адчуў, — шалёны жах. Думкі ліхаманкава раздзіралі галаву: «Забіў… А раптам толькі параніў? Спыніцца! Трэба вярнуцца! Я ж не вінаваты… Не, хутчэй ад гэтага жахлівага месца… Прэч!»

І я ўцёк. Збег, каб вось ужо два гады пакутаваць, не спаць, несці ў сэрцы жах. Я даў сабе слова, што больш ніколі не сяду за руль машыны. Адмовіўся ад шафёрства, перайшоў у слесары.

Вельмі спадзяваўся, што той, каго я збіў, выжыў… Праз нейкі час з'ездзіў у Лекараўку і даведаўся ад мясцовага жыхара, што загінула маладая жанчына.

І хоць я пераконваў сябе ў сваёй невінаватасці… — Васіль не паспеў дасказаць.

Марыся ўстала і, хістаючыся, пайшла прэч ад гэтага, цяпер ужо страшнага, месца.

Васіль ускочыў і працягнуў ёй услед рукі:

— Мары-ы-ы…

Яе недасказанае імя пякучым камяком засела ў горле. Ледзяны холад скаваў сэрца хлопца. Васіль з горыччу зразумеў, што ніякія словы, ніякія крыкі не спыняць, не вернуць яго каханую, што цяжар на сэрцы падвоіўся і несці яму яго да канца свайго жыцця.

# Трызненне вышынёй


Аннамухамед Кіршэн.

Знаёмства з Аннамухамедам Кіршэнам адбылося ў нас у снежні 2015 года, калі ў Ашхабадзе праходзілі Дні Беларусі ў Туркменістане. Так склалася, што выпадкова ці амаль выпадкова сустрэліся на запісе тэлевізійнага «круглага стала». Нагода — сустрэча беларускіх пісьменнікаў, выдаўцоў з туркменскімі калегамі… Размовы — пра сённяшні Туркменістан і Туркменістан ранейшы. Пра паэтаў, якіх я ведаў яшчэ з 1980-х… Успомнілі і Курбанназара Эзізава, яго трагічную і недарэчную смерць ад кулі салдата-дэзерціра. А галоўнае — загаварылі пра высокую паэзію Курбанназара…

І я не мог не папрасіць, каб Кіршэн перадаў падрадкоўнікі сваіх вершаў. Зрабіў ён гэта не адразу, а пасля некалькіх напамінаў. Вершы з падборкі, дасланай Аннамухамедам, пераклалі на беларускую мову Марыя Кобец і Алесь Бадак.

Вось што расказвае пра А. Кіршэна яго калега па пісьменніцкім цэху Туркменістана Максат Бякшыімаў: «…Павінен заўважыць, што гучанне, музыкальнасць, асаблівая меладычнасць слоў у яго вершах гэтак жа важныя, як і сэнс, які, на першы погляд, падаецца нескладаным. У яго няма рыфмаваных радкоў, у многіх месцах прысутнічаюць нават рыфмы знутры кожнага радка. А яшчэ ён любіць гульню слоў. Вось такі ён няпросты паэт…»

Што ж да біяграфіі Аннамухамеда Кіршэна, то нарадзіўся ён у 1961 годзе ў Тэджэне. Завочна закончыў Туркменскі дзяржаўны політэхнічны інстытут па спецыяльнасці «Інжынер-будаўнік». Вершы піша з юных гадоў. Шмат друкуецца ў калектыўных зборніках, перыядычных выданнях. У 2011 годзе стаў пераможцам конкурсу «Залатое стагоддзе Туркменістана», заснаванага Прэзідэнтам Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедавым. Працуе рэдактарам аддзела паэзіі і кароткай прозы часопіса «Дунья эдэбіяты» («Сусветная літаратура»). Пераклаў на туркменскую мову раман японскага пісьменніка Коба Абэ «Чужы твар», трагедыю «Прыкуты Праметэй» старажытнагрэчаскага трагіка Эсхіла. Шмат працуе над перакладамі паэзіі С. Ясеніна, Р. М. Рыльке, Р. Бёрнса, Дж. Кітса.

**Кірыл ЛАДУЦЬКА**

**Аннамухамед КІРШЭН**
**(Туркменістан)**

## Я раздаю смех…

*Я ўсяго толькі клоўн!*
*Гэта ўсё, што я ўмею,*
*Да чаго ляжыць сэрца.*
*Дзень і ноч навылёт*
*Ад пакутаў штукарскіх сваіх жа нямею*
*Ў вечных пошуках сродкаў пацешыць*
*народ.*

*Так, мажліва, аднойчы стане сябрам*
*мне поспех,*
*Бо стрываю глядацкія кпіны і здзек.*
*Ад душы хай смяюцца з мяне,*
*бо іх посмех —*
*Тая дробязь, што можа мне даць*
*чалавек.*
*Не шкадуюць далоняў, апладзіруюць*
*шчодра,*
*Задаволены, мабыць — блазнаванне*
*«на ўра».*
*Ці, аднак, да таго ім, што толькі ўчора*
*Клоўна жонка пакінула, штукара.*

*Пэўна знойдуцца тыя, хто нічк*
*не даўмее:*
*Ці ж прафесія гэта — людзей весяліць?!*
*...Я ўсяго толькі клоўн!*
*Гэта ўсё, што я ўмею!*
*І адно толькі знаю, што радасць дарыць.*

*Я не дурань, не блазан, не вар'ят на арэне,*
*Што стварае дзівосы штукарскай*
*рукой.*
*З кожным выхадам тут,*
*на збавіцельцы-сцэне,*
*Я вандроўнаму сэрцу знаходжу спакой.*
*Кожны дзень новы фокус ці трук, —*
*не праблема.*
*Гледачы патрабуюць прадстаўленняў*
*наноў.*
*…Так штодня, штохвілінна ў адвечнай*
*дылеме*
*Між жыццёвай рэальнасцю і хцівай*
*гульнёй.*

## Жураўлі

*Далучыцца б мне да зграі*
*Тых далёкіх жураўлёў.*
*Не, зямля мяне трымае.*
*Так, для роспачы наноў…*

*З клінам палячу я ў неба,*
*Пад аблокі галавой!*
*Той, хто неразлучны з глебай,*
*Так і трызніць вышынёй…*

*Прагну я з вышынь агледзець*
*Шыр марскую, скроні гор.*
*Можа, мроі блізка недзе?*
*Адгукнуцца мо ў дакор?*

*Пагляджу ў сінечу неба*
*У нудзе па жураўлях.*
*Знацца так мне, мабыць, трэба —*
*У журбе, што я не птах.*

*Паляцяць жураўкі ў стоме —*
*Ды да неба без журбы.*
*А шкада: мяне, вядома,*
*Не паклічуць журавы…*

## Не сыходзь!

*Без цябе…*
*Свет цёмны-цёмны!*
*Ты вачэй маіх святло...*
*Перасудаў неўтаймоўнасць*
*Спараджае сварак тло.*

*Ты не слухай іх...*
*Лепш вер мне!*
*Безадказным быў калі?!*
*Прывяжы к сабе даверам*
*І пяшчотай спаталі.*

*І прабач...*
*Хай безліч гневаў*
*Сыдзе, знікне ў небыццё.*
*Мілая, не плач, не трэба, —*
*Рвецца сэрца на шмаццё...*

*Ты...*
*Найлепшая за скарбы!*
*Ты прычасце пачуццём!*
*Без цябе багацце фарбаў*
*Меркне.*
*Ведаеш жа ўсё…*

*А пакінеш —*
*Змрок настане!*
*…Не! Адхланнем між начэй*
*Прыйдзеш,*
*Каб сысці астатнім*
*Праблескам маіх вачэй...*

**З туркменскай.**
**Пераклад Марыі КОБЕЦ**

## Далёка

*Ты так далёка ад мяне.*
*Каму паслаць мне свой дакор?*
*Не раздзяляюць нас — о не! —*
*Ні мора шал, ні холад гор.*

*Ты ад мяне далёка так,*
*Што сціхлі злыя языкі.*
*Хоць не раздзеляцца ніяк*
*Прад намі нашыя шляхі.*

*Ты так далёка, ды аб тым*
*Вядома толькі нам дваім.*
*Нас раздзяляе слоў сцяна:*
*«Даруй», «так нельга», «не адна».*

**З туркменскай.**
**Пераклад Алеся БАДАКА**

*Стасункі*

# Знайсці агульную мову

**Малдаўскі хлопчык Гугуцэ, герой кніг Спірыдона Вангелі, марыць знайсці больш сяброў у Беларусі. А незабыўны гумарыстычны малдаўскі часопіс «Кіпэруш» можа стаць старонкай у беларускім «Вожыку».**

Днямі на «круглы стол» «Беларуска-малдаўскія літаратурныя сувязі на сучасным этапе» ў Выдавецкім доме "Звязда" сабраліся тыя, хто ўважліва ставіцца да малдаўскай культуры і літаратуры. Да зацікаўленай размовы пра тое, як аб'яднаць літаратурныя намаганні творцаў дзвюх краін для больш выніковага супрацоўніцтва, далучыліся першы сакратар Пасольства Рэспублікі Малдова ў Рэспубліцы Беларусь Таццяна Чаркез, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома "Звязда" Алесь Карлюкевіч, прадстаўнікі малдаўскай дыяспары ў Рэспубліцы Беларусь Дзмітрый Ліку, Васіль Семянюк ды іншыя зацікаўленыя асобы.

Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч падкрэсліў, што асаблівы інтарэс у беларусаў выклікаюць шырока развітыя ў малдаўскай літаратуры традыцыі сатыры і гумару, і прызнаўся ў тым, што адна з любімых кніг яго дзяцінства — «Прыгоды Гугуцэ», якую прачытаў на беларускай мове. У ёй без гумару няма ніводнай старонкі. Тонкі гумар захапляе, пачынаючы ад самой «Шапкі Гугуцэ», ад ідэі, з якой ён будаваў сваё жыццё і прыдумваў мастацкія сімвалы. І, адпаведна, цікавасць выклікае, як прыдумваў забаўляльны вобраз свайго героя глыбокапаважаны стваральнік выдатнага праекта, адрасаванага дзецям не толькі Малдовы, але і ўсіх краін свету, — Спірыдон Вангелі. Як вядома, аўтар даў свайму герою вялікае жыццё, кніга атрымалася з працягам. Сучасным беларускім дзецям было б вельмі карысна пасябраваць з малдаўскім хлопчыкам Гугуцэ. Алесь Мікалаевіч бачыць магчымым выданне гэтага твора на беларускай мове як паход малдаўскай дзіцячай літаратуры па Беларусі. Гэта стане магчымым, калі з малдаўскага боку будзе падтрымана такое падарожжа.

Першы сакратар Пасольства Рэспублікі Малдова ў Рэспубліцы Беларусь Таццяна Чаркез зазначыла, што пасольства вельмі чулліва ставіцца да ўсіх прапаноў.

У арсенале Выдавецкага дома «Звязда» — рэалізацыя ў інтэрнэт-прасторы сумесных праектаў з рознымі краінамі, у тым ліку і з Малдовай. Ужо сёння на партале «Сугучча» дзейнічае пляцоўка «Літаратурная Малдова». Па размешчанай там інфармацыі можа скласціся пэўнае ўяўленне пра творчыя працэсы ў гэтай краіне. Пляцоўка адкрыта для шматбаковага супрацоўніцтва. У прыватнасці, тут могуць быць размешчаны пераклады малдаўскіх пісьменнікаў на рускую мову, творы на малдаўскай або румынскай мовах, творы малдаўскіх аўтараў у перакладзе на беларускую мову, а таксама творы беларускіх аўтараў у перакладзе на малдаўскую або румынскую мовы.

Сайт развіваецца. Пры ўдзеле Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Магчымыя шляхі кантактаў, творчага дыялогу Алесь Карлюкевіч пашырыў і іншымі прапановамі: «Ведаем, што і ў Малдове на дастаткова высокім узроўні знаходзіцца літаратуразнаўства, гісторыя культуры. Сёння многа робіцца для захавання інфармацыі пра гістарычныя і культурныя традыцыі. Мы хацелі б наладзіць партнёрства з Акадэміяй навук Малдовы. Для спажыўцоў інфармацыі ў Беларусі, адпаведна, і ў краінах СНД важна больш ведаць пра класікаў малдаўскай літаратуры, яе сучасных творцаў».

Падчас «круглага стала» прагучала на першы погляд фантастычная і ў той жа час вельмі рэальная для ажыццяўлення ідэя. Паколькі малдаўскі «Кіпэруш» перастаў існаваць, яго старонку можна было б адкрыць у беларускім «Вожыку» і змяшчаць тут матэрыялы малдаўскіх гумарыстаў. Дзіцячы часопіс «Бярозка» таксама шукае новыя імёны, у прыватнасці, тых аўтараў, якія ствараюць творы для падлеткаў. Тут таксама запатрабаваны малдаўскія майстры мастацкага слова.

Ад Ірыны Качатковай, перакладчыка і актыўнага мастацкага камунікатара ў плане развіцця літаратурных сувязей паміж Беларуссю і Малдовай, было цікава даведацца, як творцы знаходзяць агульную мову. Ірына Львоўна пазнаёміла з перакладамі малдаўскага пісьменніка Юрыя Іванова, падзялілася новымі творчымі планамі.

На галоўнай пляцоўцы вялікага кніжнага свята з падтрымкай Пасольства Рэспублікі Малдова ў Рэспубліцы Беларусь пройдзе прэзентацыя кнігі «Край мой запаветны» з серыі «Сугучча», выпушчанай Выдавецкім домам «Звязда». Кніга прысвечана сучаснай літаратуры Беларусі і Малдовы.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

# Стагоддзе на далоні

**Каб дасканала пазнаёміцца з беларускай літаратурай XIX стагоддзя ці напісаць бліскучае даследаванне па мове гэтага перыяду, ужо не трэба збіраць стосы кніг і тыднямі сядзець у бібліятэцы. У выдавецтве «Беларуская навука» пабачыў свет электронны дыск «Канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя», які змяшчае не толькі грунтоўны даведнік, але і поўны корпус твораў азначанага перыяду (497 тэкстаў). З некалькіх клікаў дыск прапануе карыстальніку агульны канкарданс, чатыры аўтарскія канкардансы, частотны слоўнік, адваротны слоўнік, спіс твораў і тэкстаў. Дык што ж такое канкарданс? Вось як тлумачыць аўтар даведніка — малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі Ніна Міхайлаўна Сянкевіч.**

— Канкарданс — даведнік, які складаецца на аснове корпуса тэкстаў — поўнага перыяду альбо поўнага аўтара. Спецыфіка ў тым, што ён уключае ўсе словаўжыванні тэксту. Гэта поўны пералік словаўжыванняў з кантэкстамі і адраснымі характарыстыкамі, да якога можа дадавацца і іншая інфармацыя. Як правіла, на гэтым матэрыяле робяцца частотныя і адваротныя слоўнікі, паказальнік слоў, якія ёсць і на нашым дыску. Канкарданс разлічаны на спецыялістаў, але змяшчае ўсе тэксты — таму цікавы і для шырокага чытача. Бо да гэтага часу тэксты XIX стагоддзя не выдаваліся ў поўным аб'ёме, за выключэннем хіба кніг серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры».

**— Якую гісторыю маюць гэтыя глабальныя даведнікі?**

— Гісторыя пачынаецца больш як сем стагоддзяў таму. Лічыцца, што першы канкарданс быў створаны ў 1262 годзе па Біблії. Эра сучасных канкардансаў пачалася ў сярэдзіне мінулага стагоддзя. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў былі створаны канкардансы па творах многіх паэтаў і пісьменнікаў — перш за ўсё англамоўных. Найбольш вядомым можна лічыць шасцітомны канкарданс да твораў Уільяма Шэкспіра, выдадзены ў 1968 годзе. Сёння гэта справа квітнее ў Расіі — там працуюць вялікія калектывы, ствараюцца новыя канкардансы на больш высокім узроўні.

У айчыннай лексікаграфіі канкардансы не былі распаўсюджаны, і можна сказаць, што наша група пад кіраўніцтвам прафесара Віктара Мартынава была адной з першых, хто ўзяўся за гэту справу ў канцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Калі я выступала на канферэнцыях з дакладамі, было заўсёды шмат пытанняў, мовазнаўцы цікавіліся гэтай справай. У той час канкардансы задумваліся як альтэрнатыва картатэкам, патрэбным для стварэння новых слоўнікаў. Картатэкі складаюцца з адзінкавых выпадкаў, а ў канкардансе змешчаны поўны пералік кантэкстаў, што дазваляе лёгка сфармуляваць значэнне слова. Гэта зручны інструмент для даследавання семантыкі.

**— Ці вялася праца над іншымі канкардансамі?**

— Праца распачалася ў 1979 годзе. Першым планаваўся канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя, бо гэта вельмі значны перыяд у развіцці беларускай мовы. Менавіта тады пачалося станаўленне яе літаратурнай формы. Але гэты перыяд быў малавывучаны, бо даследчыкі не мелі доступу да арыгіналаў літаратурных твораў, раскіданых па розных бібліятэках і архівах. Беларуская мова XIX стагоддзя і сёння застаецца не вельмі даследаванай...

*„Даследаванне частотнасці лексічных адзінак дазваляе зрабіць высновы пра асаблівасці мовы і стылю пісьменніка, у прыватнасці, знайсці яго «улюбёныя» словы, выявіць суадносіны паміж часта- і рэдкаўжывальнымі, прасачыць, наколькі блізкая па тэматыцы творчасць розных аўтараў.*

У 1985 годзе мы падрыхтавалі першы канкарданс. Потым мы вырашылі зрабіць серыю канкардансаў беларускіх пісьменнікаў:



Фота Кастуся Дробава.
Ніна Сянкевіч.

аўтарская лексікаграфія ў Беларусі ў той час амаль не развівалася, у адрозненне ад іншых краін.

Канкардансы планаваліся як аснова для распрацоўкі слоўнікаў мовы асобных пісьменнікаў, але гэта задача засталася нявыкананай. Было вызначана зрабіць канкардансы мовы Максіма Багдановіча, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы. Мы пачалі ўводзіць тэксты Кузьмы Чорнага, але потым я на шэсць год сышла ў адпачынак, і за гэты час змянілася тэхніка. Мы запісвалі збор твораў на магнітную стужку для электронна-вылічальных машын ЕС. А калі я вярнулася, замест гэтых машын з'явіліся персанальныя камп'ютары, і магнітныя стужкі нельга было прачытаць, таму работу над канкардансам мовы Чорнага давялося спыніць. Канкарданс мовы Багдановіча быў амаль завершаны, але цяпер пры ўзнаўленні яго трэба дапоўніць творамі, не ўлічанымі ў той час. Канкарданс мовы Кандрата Крапівы быў завершаны ў 1996 годзе — і з таго часу праца спынілася. Выдаць даведнікі не атрымалася, бо яны вялікія па аб'ёме. Мы раздрукавалі «Канкарданс беларускай мовы XIX стагоддзя» ў адзіным экзэмпляры — у выніку 12 кніг вялікага фармату (4865 старонак).

Калі я даведалася, што канкардансы можна выдаць у выглядзе дыска, то прапанавала аднавіць працу, і ў 2011 годзе пабачыў свет «Канкарданс Кандрата Крапівы». Потым вырашылі ўзнавіць канкарданс мовы XIX стагоддзя, але за 25 гадоў дасследчыкі адшукалі невядомыя



Вокладка электроннага дыска.

тэксты, якія трэба было дадаць. Бо асноўная вартасць канкарданса — паўната і аб'ектыўнасць пададзенай інфармацыі — забяспечваецца апрацоўкай максімальна поўнага тэкставага матэрыялу.

**— Якія лінгвістычныя даследаванні сталі магчымыя дзякуючы з'яўленню канкарданса? На якія актуальныя пытанні можа даць адказ гэты даведнік?**

— Мы пачалі ўжо працу над двума слоўнікамі на аснове канкарданса. Гэта «Кароткі слоўнік беларускай мовы XIX стагоддзя», дзе будуць прыведзены значэнні спецыфічных слоў, і «Анамастычны слоўнік беларускай мовы XIX стагоддзя» — такога слоўніка няма, хаця ў творах гэтага перыяду сустракаецца шмат адмысловых тапонімаў, уласных імёнаў.

Карыснымі будуць і іншыя слоўнікі, якія змяшчае канкарданс. Нават простае даследаванне на аснове частотных слоўнікаў дае прыемныя вынікі. Мне было надзвычай цікава паглядзець, якія словы часцей за ўсё ўжывалі аўтары твораў у XIX стагоддзі. Аказалася, што самае частотнае слова — *пан*. А вось спіс дзесяці найбольш ужывальных слоў: *пан, Бог, людзі, дзеці, мужык, брат, цар, хата, народ, зямля*. Калі я параўнала самыя частотныя словы з агульнага і аўтарскіх канкардансаў, то выявілася, што гэтыя спісы супадаюць 1:1 у Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і практычна супадаюць у Аляксандра Ельскага і Каруся Каганца. А вось у Кастуся Каліноўскага найбольш частотнае слова — *мужык*. Даследаванне частотнасці лексічных адзінак дазваляе зрабіць высновы пра асаблівасці мовы і стылю пісьменніка, у прыватнасці, знайсці яго «улюбёныя» словы, выявіць суадносіны паміж часта- і рэдкаўжывальнымі, прасачыць, наколькі блізкая па тэматыцы творчасць розных аўтараў.

**— Якія рэдкія тэксты змешчаны на дыску?**

— Ёсць невялічкі вершаваны твор «Разгавор Лянковіцкіх крэсцьян» — назва сустракаецца ў даследаваннях, але бачыць тэкст не даводзілася. Яго знайшлі ў Віленскім архіве, і я сама расчытвала рукапіс, што было няпростай справай: старая папера, неразборлівы почырк. Упершыню змешчаны і ўрывак празаічнага твора Адама Гурыновіча, вядомага як вершатворца. Уключаны тэксты гутарак, адносна якіх няма звестак.

Тэксты шэрагу твораў, што ўжо былі апублікаваныя, маюць досыць істотныя адрозненні ад аўтарскіх. Нярэдка ў тэксты ўносіліся сур'ёзныя праўкі, яны публікаваліся са значнымі скарачэннямі. Узятыя з першакрыніц, тэксты ў корпусе пададзены без купюр. Вершаваныя творы «Старшына» А. Абуховіча, «Саўсім не тое, што было» Ф. Тапчэўскага, «Езусу Цвецінскаму скарга на даўмантаў» І. Тамашэвіча, «Літвінам, запісаўшымся ў мой альбом, на пажагнанне» А. Вярыгі-Дарэўскага, ананімны твор «Дзякуй Богу і гасудару…». Некаторыя вершы К. Каганца, Л. Вітана-Дубейкаўскага з рукапіснага зборніка «Мае думы і мыслі» ўвайшлі ў корпус у поўным аб'ёме ў адрозненне ад апублікаваных тэкстаў.

**— Ці мае сэнс перавыдаваць творы беларускай літаратуры XIX стагоддзя, калі ўсе яны змешчаны на дыску?**

— Гэта чытабельныя тэксты, але... Калі мы пачыналі працу над канкардансамі, праграмам было зручней апрацоўваць тэксты, надрукаваныя вялікімі літарамі. Таму ўсе тэксты ўведзены

*„Канкарданс разлічаны на спецыялістаў, але змяшчае ўсе тэксты — таму цікавы і для шырокага чытача. Бо да гэтага часу тэксты XIX стагоддзя не выдаваліся ў поўным аб'ёме.*

менавіта так, і чытаць іх не вельмі зручна, бо нельга, напрыклад, вылучыць уласныя імёны. Мы рабілі мінімальнае рэдагаванне: замянілі літары, якія не існуюць у сучасным беларускім алфавіце (так, Карусь Каганец распрацоўваў уласны алфавіт, і яго сімвалы з рукапісных сшыткаў мы замянялі), і правялі транслітарацыю тэкстаў з лацінкі на кірыліцу.

Агульнавядома, што ў той час не існавала правілаў граматыкі і правапісу, адсюль — мноства розных графічных варыянтаў аднаго слова (напрыклад, у канкардансе зарэгістравана 14 варыянтаў слова *яшчэ*). Дарэчы, знайсці ўсе варыянты аднаго слова дапамагае адваротны слоўнік. У тэкстах досыць часта сустракаецца злітнае напісанне слоў, асабліва часціц і прыназоўнікаў. Мы не ставілі знакаў прыпынку, пакідалі аўтарскія, якія не заўсёды ставіліся нават у канцы сказаў. Усё гэта ўскладняе ўспрыманне. Таму чытаць мастацкія творы, на мой погляд, зручней у адрэдагаваным варыянце.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Кнігі пра галоўнае

## Свой стэнд Арменія прысвяціла 25-годдзю незалежнасці



Ніколі не была ў Арменіі, але адчула яе… Зразумела, што ў нас агульнага з народам, які насяляе гэтую краіну: тое, што мы лічым каштоўным. Дастаткова было падысці да стэнда Арменіі, ганаровага госця XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, каб адразу ўбачыць: яны, як і мы, ганарацца сваімі традыцыямі кнігадрукавання, якія сягаюць у XVI стагоддзе. І для іх, як і для нас, важнымі былі кнігі, якія неслі людзям святло веры. Першая друкаваная Біблія на армянскай мове выйшла ў Амстэрдаме ў 1666 годзе. Гэта была кніга аднаго з вельмі шаноўных армянскіх першадрукароў Васкана Ерэванцы, які да таго ж меў тытул епіскапа і быў сапраўдным інтэлігентам той эпохі. Гэтая падзея адзначана на стэндзе краіны, які месціцца практычна ў цэнтры выставачнага павільёна.

Арменія ў цэнтры — і ёй ёсць што паказаць. З XVIII стагоддзя кнігадрукаванне развіваецца на тэрыторыі самой краіны, для якой кніга — адзін з сімвалаў культуры. І спосаб прадставіць сябе сярод іншых народаў: 25 гадоў незалежнасці — яшчэ адна важная дата ў яе гісторыі, пра якую, дарэчы, расказваюць шматлікія кнігі, прадстаўленыя на стэндзе. Нічога выпадковага, усё прадумана: напрыклад, як зразумець краіну без кніг «Гісторыя Арменіі», «Героі Арменіі», без кніг пра трагедыю армянскага народа пачатку XX стагоддзя? А для нас асабліва цікавай будзе «Удзел Арменіі ў Першай сусветнай вайне»… Арменія — не такая далёкая для нас. І ў Мінскім міжнародным кніжным кірмашы вопыт удзелу мае. Гэта падкрэсліў намеснік міністра культуры Рэспублікі Арменія Артур Пагасян:

— Арменія даўно бярэ ўдзел у Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы. У нашым павільёне прадстаўлена 200 найменняў кніг — мастацкая, гісторыка-культурная, навукова-папулярная літаратура на розных мовах. Самае галоўнае, што ў павільёне прадстаўлена першая армянская Біблія, надрукаваная ў 1666 годзе. Гэтая падзея адзначана ў спісе памятных дат ЮНЕСКА. Кнігавыдавецтва з'яўляецца адным з галоўных складнікаў культурнага супрацоўніцтва паміж Арменіяй і Рэспублікай Беларусь, у якім важным кірункам з'яўляецца кнігаабмен і праца па перакладах беларускіх і армянскіх аўтараў на мовы нашых краін.

Павагу да Беларусі арганізатары армянскага павільёна дэманструюць кнігамі: на асобным стэндзе прадстаўлены пераклады твораў беларускіх класікаў на армянскую мову. Яшчэ з савецкага часу стасункі паміж творцамі і наогул рэспублікамі былі наладжаны. Гэтую традыцыю пісьменнікі дзвюх краін імкнуцца не губляць і цяпер.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Арменіі Эдуард Мілітанян распавядае:

— Мы на гэтай выстаўцы хочам паказаць тыя літаратурныя сувязі, якія былі ў савецкія часы, і хочам іх працягваць. Мы прадстаўляем кнігі, якія былі выдадзены на працягу апошніх двух гадоў у самых розных жанрах, і не толькі на армянскай мове, але і на нямецкай, англійскай, французскай, рускай. Тут ёсць і беларускія аўтары, выдадзеныя па-армянску. У нас нядаўна выйшла кніга Алеся Карлюкевіча «Вавёрка піша сачыненне» ў перакладзе на армянскую, яшчэ мы прадстаўляем часопіс «Літаратурная Арменія», дзе ў першым нумары за гэты год змешчаны цыкл вершаў Алеся Бадака. У 2013 годзе выйшла сумесная кніжка з серыі «Сугучча», прысвечаная армянскім і беларускім аўтарам. Прадстаўленая сучасная літаратура Арменіі: паэтычныя зборнікі, проза. Вядома, тыражы кніг раней і цяпер параўнаць нельга, але я магу сказаць, што ў нас усё ж чытаюць літаратуру. Творы друкуюцца і ў газетах. У школьныя падручнікі ўключаюць творы сучасных пісьменнікаў — гэта таксама прасоўванне літаратуры, папулярызацыя яе сярод патэнцыяльных чытачоў. У нас у рэспубліцы жыве 95 працэнтаў армян, таму пішуць у асноўным па-армянску. Але я ведаю, што беларусы, якія жывуць у Арменіі, маюць сваю газету. Ведаю, што і ў вас армянская дыяспара актыўная. Можна сказаць, што кніжныя выстаўкі даюць магчымасць нашым народам лепш разумець адзін аднаго.



Фота Кастуся Дробава.

Але ў Мінску Арменія звяртаецца да іншых краін свету. Напрыклад, ёсць кніга, якая дапаможа зразумець творчасць кінарэжысёра Сяргея Параджанава, ёсць выданне Уільяма Сараяна «Пра што гаворыць пісьменнік», а кніга «Армянскія матывы» дасць магчымасць прасачыць уплыў культуры гэтага народа на творцаў іншых краін.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Вершаваная гульня для беларускіх дзетак ад Эдварда Мілітаняна

**Эдвард Мілітанян — часты госць у Беларусі. Ён актыўна ўдзельнічае ў традыцыйных лютаўскіх кніжных выстаўках у Мінску, кожны год прадстаўляючы наведвальнікам навінкі армянскага кнігавыдання. Старшыня Саюза пісьменнікаў Арменіі быў і сярод дэлегатаў Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час» у лютым 2015 года.**

Айчынныя паэты неаднойчы звярталіся да перакладаў паэзіі армянскага творцы. Вершы Эдварда Мілітаняна друкаваліся па-беларуску ў газеце «Літаратура і мастацтва», часопісах «Бярозка» і «Маладосць», змяшчаліся на інтэрнэт-партале «Созвучие: литература и публицистика стран СНГ». За развіццё беларуска-армянскіх літаратурных сувязей, падтрымку нашай літаратуры ў Арменіі і ўвогуле ў свеце Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам Эдвард Мілітанян узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

А зусім нядаўна ў Выдавецкім доме «Звязда» пабачыла свет кніга вершаў армянскага сябра Беларусі «Паветраны дом». Дванаццаць твораў пераклаў на беларускую мову вядомы дзіцячы паэт Мікола Чарняўскі.

*Я збудаваў з паветра дом,*
*Падмёў паветранай мятлой.*
*Павесіў лямпу тым жа днём,*
*Я запаліў у ім святло.*

Э. Мілітанян разам з перакладчыкам запрашае юнага чытача Беларусі да гульні. Свае вершаваныя мастацкія прыдумкі імкнецца данесці сур'ёзна, справакаваўшы хлопчыкаў і дзяўчынак на развагі. Паветраны дом — гэта фантазія. Але і сабака Палкан, які яго сцеражэ, — таксама фантазійны персанаж. І сад побач з домам расце паветраны. «Усё паветранае ў ім — / І яблыні, і вінаград». Але гэта не перашкода для наступнай дзеі:

*Я шмат паветраных дароў*
*Сабраў у садзе ўсім на здзіў.*
*За стол паветраны сяброў*
*Да самавара пасадзіў.*

Чытаючы радкі Эдварда Мілітаняна, узгадваеш словы Анатоля Алексіна пра вершы Агніі Барто, пра тое, што яны «літаратура на вырост, для ўсіх пакаленняў: вывучыўшы іх у дзіцячым садзе, памятаюць да сівізны».

У вершах Э. Мілітаняна, напоўненых гумарам, парадоксамі, гульнявымі элементамі, максімальная канкрэтнасць. У мове, у сюжэце, у вобразах. І ўсё гэта суадносіцца з кампазіцыяй, агульнай фабулай твора. Выбудаваныя на фантазіях і прыдумках, творы ўсё ж пазбаўлены фальшу, маюць прыцягальны характар. Паэт знаходзіць такія словы, такія павароты ў агульным рэчышчы, што чытач пранікаецца надзвычайным даверам да аўтара. Нават пры знаёмстве з такім вершам, як вось гэтая «Балада пра пчолак і скрыпку», дзе пчолкі трапляюць у… скрыпку. «Патрапіць туды не хацелі — / зусім выпадкова ўляцелі. / Памкнуліся выбрацца, / Ды — / Адтуль ні туды ні сюды!» Бедныя пчолкі засумавалі, заплакалі. І скрыпка сама па сабе заплакала, новыя гукі пачала выдаваць. А што было далей? Пра гэта трэба ўжо пытацца ў скрыпача… Выпусціўшы на волю пчол-палапянак, ён пачаў складаць адмысловую баладу.

Выдадзеную «Звяздой» кнігу Эдварда Мілітаняна «Паветраны дом» па-майстэрску праілюстравала маладая мастачка Дана Рунова. Яна дапоўніла вершы армянскага паэта вобразнымі пачуццямі і ўяўленнямі. І «Паветраны дом» набыў яшчэ болей колераў дабрыні і пяшчоты.

Знаёмства са зборнікам вершаў Эдварда Мілітаняна нагадала, што розныя пакаленні юных чытачоў Беларусі ў самыя розныя дзесяцігоддзі адкрылі шмат каго з дзіцячых паэтаў і празаікаў Арменіі. Толькі ў «Вясёлцы» друкаваліся творы Геворга Эміна, Грыгора Макунца, Сурэна Мурадзяна, Нансен Мікаэлян, Хажак Гюльназаран.

**Павел АЛЬСОВЫ**

# Адказы на складаныя пытанні

**Кніжная выстаўка-кірмаш — добрае месца для сустрэч і размоў між выдаўцамі, пісьменнікамі, чытачамі. Для беларускіх творцаў і іх замежных сяброў падрыхтаваны шматлікія мерапрыемствы, якія ладзяцца ў межах міжнароднага сімпозіума «Пісьменнік і час: пераемнасць у літаратуры». Адной з першых сустрэч стаў «круглы стол» «Літаратура ў культурнай прасторы свету».**

Якія творчыя мэты галоўныя для пісьменнікаў? Як яны бачаць будучыню літаратуры? Падчас прывітальных слоў кожны выступоўца прапанаваў свае адказы на гэтыя пытанні.

Па глыбокім перакананні ўсіх удзельнікаў сімпозіума, літаратура павінна быць гуманістычнай, заклікаць да справядлівасці і дабрыні. «Кніга павінна ўтрымліваць "вітамін жыцця"», — адзначыў латышскі пісьменнік Яронімас Лаўцюс і распавёў, што піша кнігі па ўражаннях ад наведвання бальніц і турмаў, каб звярнуць увагу на развагі і высновы людзей складанага лёсу.

Паводле старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца, «літаратура павінна спрыяць развіццю чалавека, правільнаму станаўленню яго характару». Як падкрэсліла загадчык аддзела аналітыкі і знешніх культурных сувязей Інстытута літаратуры і мастацтва імя М. А. Аўэзава Святлана Ананьева, «для літаратуры застаецца актуальнай выхаваўчая функцыя, бо кніга павінна выхаваць у моладзі разуменне сваёй культуры і пачуццё пераемнасці».

Літаратура з'яўляецца інструментам збліжэння краін. Колішні пасол Славакіі ў Беларусі Марыян Сэрватка ўзгадаў леташнюю беларуска-славацкую вандроўку па маршруце Янкі Купалы, намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник» Аляксандр Казінцаў абвясціў, што ў выданні цягам апошняга дзесяцігоддзя апублікаваны творы двух-сот беларускіх аўтараў.



*Фота Кастуся Дробава.*

*Падчас «круглага стала» ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі.*

Малдаўскі пісьменнік Юры Іваноў прадставіў кнігу «Дарога мары», напісаную па ўражаннях ад наведвання Беларусі. Святлана Ананьева адзначыла навуковыя публікацыі, прысвечаныя казахскай літаратуры, якія ў 2015 годзе пабачылі свет на старонках беларускіх выданняў. «Менавіта на сутыкненні культурных межаў адбываюцца цікавыя сустрэчы, таму мы вельмі разлічваем на супрацоўніцтва з Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі», — заўважыла даследчыца.

Важнымі з'яўляюцца не толькі літаратурныя, але і асабістыя стасункі: цёплыя сустрэчы, абмен карыснымі ведамі. Расійскі пісьменнік Яўген Анташкевіч распавёў пра збор матэрыялаў да кнігі, прысвечанай Першай сусветнай вайне, пра наведванне беларускіх гарадоў, дзе адбываліся ваенныя дзеянні. «Першая сусветная вайна практычна не праходзіла на тэрыторыі сучаснай Расіі, таму беларусы больш шануюць памяць пра гэтыя трагічныя падзеі. Ёсць людзі, якія займаюцца гісторыяй вайны, падтрымліваюць у належным стане помнікі і месцы пахаванняў, хаця працуюць у іншай сферы. Яны вельмі дапамаглі ў вывучэнні абароны Смаргоні, якая працягвалася восемсот дзён! Я вырашыў узняць гэтую тэму Першай сусветнай вайны для расійскага чытача і вельмі ўдзячны беларускім знаёмым за падтрымку!» — адзначыў творца.

Да таго ж, літаратура павінна аб'ядноўваць людзей. Маладая расійская пісьменніца Алена Тулушава лічыць, што «абмен вопытам паміж пісьменнікамі патрэбны, каб абмеркаваць актуальныя праблемы і тэмы і прадухіліць з'яўленне твораў, напісаных у рэчышчы масмедыйнай прапаганды». Згадваючы прозу спадарыні Алены, якая неаднойчы друкавалася ў беларускіх часопісах, нельга не адзначыць іншыя істотныя задачы літаратуры: асэнсаванне рэчаіснасці, выяўленне праблем і заканамернасцей жыцця, пошук сучаснага героя.

Безумоўна, аўтар дасягае высокіх мэт толькі тады, калі яго творы знаходзяць чытача, калі ў соцыуме існуе цікавасць да літаратуры. Як вынікае з абмеркавання рэальнай сітуацыі, у гэтай сферы няmala праблем. Пісьменнікі многіх краін канстатуюць: значнасць літаратуры змяншаецца, што негатыўна адлюстроўваецца на развіцці грамадства. Але ці не насцярожвае шаноўнага чытача заўсёды аднолькавае тлумачэнне гэтай з'явы: уся справа ў камп'ютарызацыі і дэгуманізацыі чалавецтва?.. Раптам сучаснікі ахвотна адгукнуліся б на цікавыя культурныя праекты, разлічаныя на шырокую аўдыторыю, — вось толькі ніхто не мае магчымасці ці жадання заняцца іх распрацоўкай? Пошук эфектыўнай стратэгіі дачыненняў між пісьменнікам і грамадствам павінен быў стаць галоўным клопатам удзельнікаў «круглага стала». Аднак усцешаныя сустрэчай творцы, на жаль, так і не знайшлі на гэта часу.

«Пісьменнікам і інтэлектуалам трэба аб'яднацца і выявіць сябе больш, чым палітыкі і вайскоўцы, каб асобныя непаразуменні не выклікалі ўзброеных канфліктаў», — зазначыў напрыканцы сустрэчы Мікалай Чаргінец. Нельга не пагадзіцца з гэтай думкай, але якія канкрэтныя крокі варта рабіць у гэтым напрамку? Магчыма, размова на наступных мерапрыемствах сімпозіума атрымаецца больш канструктыўнай.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Ад пачатку

**Ёсць кнігі, якія немагчыма назваць кніжнай прадукцыяй. Ёсць выданні, якія даюцца не за штосьці, а дзеля чагосьці…**

Варта толькі паглядзець на кніжныя творы Францыска Скарыны: скарбы мудрасці, скарбы гісторыі, скарбы культуры народа, для якога (нават самых простых яго прадстаўнікоў) адной з галоўных каштоўнасцей жыцця была магчымасць атрымліваць веды. Мудрасць кніг Скарыны навокал: яна ідзе з галоўнага стэнда на выстаўцы, ад пляцоўкі нацыянальнага павільёна нашай краіны, які ўпрыгожаны цытатамі і выявамі з кніг першадрукара. Самі кнігі, — калі ласка, прасунутыя сучаснікі! — іх факсімільнае аднаўленне можна пабачыць дзякуючы Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Тут жа прапанавалі азнаёміцца з праектам «Мастацкая Скарыніяна», які прадстаўляе самыя розныя творы мастацтва і мастакоў (дзе кожны — імя), натхнёныя Скарынам. Прысвечаныя ПАЧАТКУ. Не, не кнігі як такой, а шырокай працы, якая святло асоб ператварыла ў асвету для шырокага кола людзей. Праца працягваецца ў тым ліку і над праектамі, якія рыхтуюць ужо да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў наступным годзе. А ў выставачным павільёне на адкрыцці Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу ўжо адчуваўся яго водар і нават смак… Відаць, для таго, каб мы разумелі: кнігі нясуць асалоду. Ёсць шмат падстаў яе адчуць, калі меркаваць па выніках працы кнігавыдавецкай галіны Беларусі ў мінулым годзе.



*Фота Кастуся Дробава.*

*Салодкі пачастунак у гонар 500-годдзя беларускага кнігадрукавання (будзе адзначацца ў наступным годзе).*

# Літарай лічбаў

◆ У Рэспубліцы Беларусь у якасці выдаўцоў на пачатку гэтага года зарэгістравана 485 суб'ектаў гаспадарання. З іх 181 — дзяржаўнай формы ўласнасці, 231 — прыватнай формы ўласнасці, 44 індывідуальныя прадпрымальнікі, 19 рэлігійных арганізацый і 10 грамадскіх аб'яднанняў.

◆ Паводле дзяржаўнага статыстычнага ўліку, усяго ў 2015 годзе выдаўцамі і выдавецкімі арганізацыямі розных форм уласнасці выпушчана 10 273 найменні кніг і брашур агульным тыражом 21,55 млн экзэмпляраў. Сярэдні тыраж адной кнігі склаў 2,1 тысячы экзэмпляраў.

◆ На беларускай мове выдадзена 1 168 найменняў кніг і брашур тыражом 3,68 млн экзэмпляраў, што ў параўнанні з папярэднім годам больш па колькасці назваў на 5,6 %, па тыражы — на 1,7 %. Літаратура на беларускай мове займае 11,4 % у агульнай колькасці выдадзенай у рэспубліцы выдавецкай прадукцыі і 17,1 % у яе сукупным тыражы.

◆ На рускай мове ў рэспубліцы выдадзена 8 227 найменняў тыражом 16,0 млн экзэмпляраў, што складае ад агульнай колькасці і тыражу 80,1 і 74,25 %. На англійскай мове выдадзена 593 назвы тыражом 1,6 млн экзэмпляраў (5,8 і 7,4 %), на нямецкай — 106 найменняў тыражом 0,14 млн экзэмпляраў (1,0 і 0,65 %), на іншых мовах — 179 назваў тыражом 0,13 млн экзэмпляраў (1,7 і 0,6 % ад агульнага аб'ёму выпуску).

◆ У 2015 годзе выдавецтвамі сістэмы Мініфарма, а таксама РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"», ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа» і РУП «Выдавецкі дом "Беларуская навука"» выпушчана 181 сацыяльна значнае выданне агульным тыражом 541,9 тыс. экзэмпляраў. У тым ліку 134 найменні тыражом 458,82 тыс. экзэмпляраў — з прыцягненнем бюджэтных субсідый (у 2014 — 128 назваў тыражом 771,8 тыс. экзэмпляраў). З рэспубліканскага бюджэту на выпуск сацыяльна значных выданняў выдзелена ўсяго 23 955,4 млн рублёў субсідый (113,1% да ўзроўню 2014-га).

◆ У мэтах выканання даручэння Кіраўніка дзяржавы, дадзенага на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, у 2015-м годзе працягнуты выпуск літаратурна-мастацкіх твораў сучасных аўтараў для мэтавай пастаўкі ў публічныя бібліятэкі — выдадзена 9 кніг агульным тыражом 18 тыс. экзэмпляраў. Памер бюджэтнай субсідыі на іх выпуск склаў 2 026,2 млн рублёў.

◆ На працягу года Міністэрствам інфармацыі ажыццяўлялася фінансаванне частковай пастаўкі тыражоў асабліва значных выданняў у публічныя бібліятэкі. Бібліятэчныя фонды дадаткова папоўніліся тыражамі 20 назваў у колькасці 18,1 тыс. экзэмпляраў на суму 4 173,3 млн рублёў.

◆ Працягнуты выпуск збору твораў У. Караткевіча і І. Навуменкі, а таксама серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры» («Мастацкая літаратура»), пабачылі свет аўтарскія кнігі многіх класікаў беларускай літаратуры і маладых аўтараў.

*Не абмініце*

# Праз стагоддзі — у будучыню

## Беларуская архітэктура вачыма Армена Сардарава

**З першых старонак маляўнічай кнігі Армена Сардарава «Краса і эстэтыка беларускай архітэктуры» натхняешся непаўторным і таямнічым светам дойлідства. Беларускага дойлідства. Аповед, які шчодра ілюструецца фотаздымкамі, зробленымі аўтарам у розныя паравіны года і ў розных кутках рэспублікі, пачынаецца з пейзажных замалёвак. Яны, у сваю чаргу, плаўна падводзяць чытача да гісторыі выкарыстання (са старажытных часоў да сучаснасці) асноўных будаўнічых матэрыялаў — дрэва, каменя, цэглы, металу, шкла.**



*Армен Сардараў.*

І вось ужо мы бачым, як і якія элементы будынка можна выканаць з гэтай сыравіны, вывучаем асновы кампазіцыі — форму, колер, сілуэт, дэталь. Асобнае месца ў кнізе займае раздзел «Дарогі і масты» — гэта тое, праектаванню чаго Армен Сардараў прысвяціў не адзін дзясятак гадоў. А вянчае манументальную працу глава «Краса. Эстэтыка беларускай архітэктуры», дзе архітэктура, нібы музыка, у поўнай меры дэманструе законы гармоніі, бо не сакрэт, што дойліды, як і кампазітары, прытрымліваюцца строгіх канонаў прыгажосці: прапорцыі, лініі, аб'ёмы...

Заўважны эмацыянальны, выразны погляд на архітэктуру, на тое, як сёння яна ўспрымаецца і самімі жыхарамі краіны, і гасцямі, турыстамі. З іншага боку, мы глядзім на архітэктуру вачыма прафесіянала: Армен Сяргеевіч ацэньвае працу калег, якія працавалі ў розныя гады і нават стагоддзі.

Дзякуючы гэтай кнізе шмат новага можна даведацца пра Беларусь, пра мінулае, якое трэба вывучаць і ведаць. Аўтар паказвае часы, калі вакол велічных палацаў вiравала жыццё — хай яно ўжо ніколі не вернецца, але назаўсёды застанецца ў нашым менталітэце.

Своеасаблівасць і харызство беларускага дойлідства з самых старажытных часоў да пачатку XXI стагоддзя ў альбоме «Краса і эстэтыка беларускай архітэктуры» адлюстраваны ў 300 мастацкіх фота і тэкстах. Армен Сардараў выступае як прафесійны фотамастак, які ўмее заўважыць і захаваць незвычайнае ў звыклых, здавалася б, будынках і збудаваннях.

Кніга знойдзе чытачоў не толькі сярод спецыялістаў — будзе цікавая і шырокаму колу чытачоў. Беларусы, на жаль, часта шукаюць прыгажосць за тысячы кіламетраў, але не бачаць яе пад бокам. Безумоўна, трэба бываць за мяжой, цікавіцца чужым, але грэбаваць сваім — апошняя справа.

Па словах Армена Сяргеевіча, ён вельмі доўга думаў над назвай кнігі. Выбіраў сярод слоў «харавство», «прыгажосць», але спыніўся ў выніку на варыянце «краса». Па-першае, слова агульнаславянскае. Па-другое, добра характарызуе менавіта беларускую архітэктуру. Увогуле, адна з галоўных мэт напісання гэтай кнігі — паказаць, што нам ёсць чым ганарыцца.

Армен Сардараў звяртае ўвагу на лепшыя ўзоры архітэктуры мінулага.



*«Краса і эстэтыка беларускай архітэктуры» адлюстравана ў 300 мастацкіх фота і тэкстах.*

Нанова адкрывае сучаснаму чалавеку традыцыйную сялянскую сядзібу: простая, лаканічная, рацыянальная архітэктура, якая не вызначаецца яркім дэкорам. Быццам нічога лішняга, але кожная дэталь напоўнена зместам, глыбокім сэнсам! Зразумела, што будаваць драўляныя хаты ў мегаполісе сёння абсурдна. Але вельмі важна разумець: дом для нашых продкаў адначасова ўвасабляў мадэль свету, ідэю адзінства пакаленняў, ён быў сугучны, суразмерны чалавеку. І Армен Сяргеевіч нагадвае нам пра гэта. А вось якраз Навагрудак — выдатны прыклад гарадскога ландшафту. Калі глядзіш на горад з фотаздымкаў Армена Сардарава, уражвае гармонія архітэктуры і прыроднага асяроддзя. А шляхецкія сядзібы — наогул цуд!

У кнізе таксама закранаецца адна з галоўных праблем і трагедый нашай архітэктуры — вялікая колькасць знішчаных помнікаў. Армен Сяргеевіч адзначае, што нават руіны — не проста маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Не трэба баяцца бачыць архітэктуру і ў гэтым. Рэшткі Крэўскага, Навагрудскага, іншых замкаў, старажытных сядзіб — таксама частка гісторыі, і менавіта ў кантэксце эстэтыкі яны аказваюць моцнае ўздзеянне. У кнізе распавядаецца і пра многія з такіх помнікаў (главы пра замкавую і сядзібную культуру).

Маючы армянскія карані, Армен Сардараў імкнецца параўнаць беларускую і армянскую архітэктуру. І прыходзіць да парадоксу: усё агульнае, але розніца пры гэтым велізарная. Розныя будаўнічыя матэрыялы, зусім розныя ландшафты, бо клімат, прыродныя асаблівасці (наяўнасць дрэў, камянёў) вельмі моцна ўплываюць на архітэктуру. І нацыянальныя традыцыі розныя ва ўсіх краінах. Але галоўнае, што аб'ядноўвае нашы народы, — гэта вера. Хрысціянская архітэктура выйшла з Усходу, з тэрыторый Сірыі, Грэцыі, Арменіі. Там зарадзіліся ідэі, якія пазней па шляху «з варяг у грэкі» прыйшлі і ў Беларусь. У нашых архітэктурных помніках прасочваюцца элементы ранняй хрысціянскай архітэктуры. Гэтыя рысы не відавочныя, але яны ёсць: у Сафійскім саборы, у яго старажытнай частцы, мы бачым, што апсіды зробленыя гранёнымі, а, як вядома, кантаваныя апсіды — гэта традыцыя армянскай архітэктуры. Таксама і Каложская царква: яе ўпрыгажэнні ўнікальныя — зроблены на паверхні сцен, так, як рабілі ў раннехрысціянскай архітэктуры.

У беларусаў стагоддзямі фарміравалася важная здольнасць жыць у добрасуседскіх адносінах з прадстаўнікамі розных нацый і рэлігій, удзельнічаць у міжкультурнай камунікацыі, узбагачацца самім і ўзбагачаць іншых. Такі гістарычны вопыт трэба шанаваць. Можна і трэба вучыцца, пераймаць лепшае і ствараць сваё. Шляхі развіцця беларускага грамадства, удасканалення асяроддзя, у якім мы жывём, пачынаюцца з нашай роднай глебы. Варта проста прыглядзецца да таго прыгожага, што ў ёй ёсць: да прыроды і людзей, да зачаравання — цікага, такога някідкага, але выключна глыбокага. Самыя лепшыя ідэі для сябе і краіны мы знойдзем менавіта тут, на роднай зямлі!

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

*На паліцы*

# Кніга выратуе!

## Сіла мастацкага слова Наталлі Ігнацэнка

**Калі знаёмішся з яе творамі, міжволі задумваешся над тым, што мала цяпер абмяркоўваецца, а часам і зусім забыта. Якое прызначэнне літаратуры? Навошта пісьменнік піша, а чытач чытае? Няўжо першы імкнецца толькі задаволіць сваю прэміяльную ганарыстасць, а другі — заняць чымсьці вольную гадзіну?**

Аналізуючы сучасны выдавецка-літаратурны працэс, часам прыходзіш да невясёлых высноў. Але пакуль працуюць такія пісьменнікі, як Наталля Ігнацэнка, заўсёды ёсць надзея, што гэты сум не застанецца непазбыўным.

Наталля Ігнацэнка трактуе мастацкае слова як крыніцу святла і дабрыні. Яе крэда ў тым, што літаратура павінна знаходзіцца ў грамадскай свядомасці там, куды імкнецца індывід у лепшых сваіх думках. Кніга для Наталлі — гэта радзіма мары і рамантыкі. Па яе перакананнях, пасля чытання тэксту чалавек павінен хоць на ёту, але станавіцца лепш. Невыпадкова яна часцей адрасуе сваю творчасць дзецям.

Пра майстэрства аўтара кажа ўменне стварыць персанажаў непадобных да іншых. Калі чытаеш кнігі Наталлі Ігнацэнка, узгадваецца Віця Малееў — герой знакамітай кнігі Мікалая Носава, бо героі пісьменніцы жывыя. У іх учынках няма ніякай схематычнасці, і таму дзеці пазнаюць у іх сябе. А лёгкая вершаваная форма дазваляе сачыць за прыгодамі герояў без высілкаў.

Наталля Ігнацэнка знаходзіць той стыль выкладу, пры якім тэкст пазбаўлены якой-небудзь павучальнасці, але зацягвае юнага чытача ў свой калазварот, прымушаючы не толькі суперажываць, але і марыць, жыць захапляльным сюжэтам.

І хоць героі Наталлі часцяком паміж сабой спрачаюцца, дружба і агульныя мэты нязменна перамагаюць. Прапаганда здаровага ладу жыцця ў творах пісьменніцы не выглядае натужна. Зараз шмат даводзіцца чуць размоў пра неабходнасць патрыятычнага выхавання. Часта такія размовы ўтрымліваюць у сабе куды больш запалу, чым рэальных пачынанняў. У Наталлі Ігнацэнка атрымліваецца тонка і вобразна вырашыць нават такія складаныя задачы. Аўтар апісвае цалкам звычайныя падзеі з жыцця, але пад яе пяром яныператвараюцца ў вельмі павучальныя.

На жаль, сёння назіраецца тэндэнцыя рабіць з людзей машыны, робатаў, універсальных салдат. Культуру спрашчаюць. Націсні на кнопку — атрымаеш інфармацыю. Дзеці не пішуць сачыненняў, а ставяць птушачкі ў графах тэстаў. Наталля Ігнацэнка спрабуе гэтаму супрацьстаяць творчасцю, а мы можам ёй дапамагчы — проста чытаць са сваімі дзецьмі яе кнігі.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Дэтэктыў. Казачны!

**Нягледзячы на відавочную кансерватыўнасць дзіцячай літаратуры, прыцягненне ўвагі юнага чытача немагчыма без творчых эксперыментаў. А эксперымент у літаратуры для маленькіх часцей за ўсё звязаны з трансфармацыяй жанраў і тэм «дарослай» літаратуры. Дэтэктыў для дашкольнікаў — рэдкі жанр, аднак кніга Таццяны Сівец «Брык і Шуся. Дэтэктыўнае агенцтва» даказвае, што яго з лёгкасцю можна адаптаваць да любога ўзросту.**




Галоўныя героі твора, Брык і Шуся, — чароўныя істоты, якія таксама атаясамліваюцца з дзецьмі. Дэтэктыўны жанр прыйшоў у дзіцячую кнігу ў пачатку ХХ стагоддзя на хвалі ўсеагульнай папулярнасці апавяданняў пра знакамітых сышчыкаў. Першымі аўтарамі гэтых апавяданняў былі вядомыя пісьменнікі Эдгар По і Артур Конан Дойл, але ўжо даволі хутка дэтэктывы сталі масавай літаратурнай прадукцыяй у выглядзе раманаў, аповесцей, нарысаў і коміксаў. Крытыкі і педагогі, якія займаюцца праблемамі дзіцячага чытання, ставіліся да гэтага вельмі негатыўна, папракаючы такую літаратуру ў нізкім мастацкім узроўні, бруalthальнасці і «бездухоўнасці». Недавер да дэтэктыва быў зламаны з'яўленнем твораў, разлічаных на чытанне дзіцяці.

Разнавіднасцей дэтэктыўных гісторый таксама шмат: дэтэктывы бытавыя і гістарычныя, містычныя («страшылкі») і казачныя. У беларускай літаратуры папулярнасць атрымаў менавіта гістарычны дэтэктыў, што аказала значны ўплыў і на падлеткавую прозу. Дэтэктыў Таццяны Сівец — менавіта казачны, але будуецца ён па ўсіх канонах звычайнага. Казка падзелена на часткі, прычым кожная заканчваецца момантам, што найбольш інтрыгуе. Да галоўных герояў прыходзіць лугавы сабачка, які просіць знайсці малпу, што згубілася ў заапарку. Згодна з канонамі класічнага дэтэктыва, пошук малпы, а пасля і таго, хто скраў яе пацеркі, вядуць непрафесіяналы-аматары. У заапарку яны задаюць шмат пытанняў насельнікам, аднак разгадваюць загадку толькі ў канцы. Апошняя і першая часткі пачынаюцца аднымі і тымі ж словамі «Сумна мне». Але калі ў пачатку героі проста нудзяцца з-за адсутнасці справы, то ў канцы схіляюцца да своеасаблівай рэфлексіі, даюць ацэнку таму, што адбылося. Героі падсумоўваюць вынікі даследавання, напаўняючы такім чынам чыста забаўляльную гісторыю дэтэктыў выхаваўчым элементам. Брык і Шуся мадэлірую́ць ідэальную сітуацыю, у якой усе сябе паводзілі б правільна, тым самым не стварыўшы прэцэдэнт для злачынства. Такім чынам, твор Таццяны Сівец — выдатны доказ таго, што многія жанры дарослай літаратуры можна з лёгкасцю адаптаваць для самых маленькіх чытачоў.

> *Брык і Шуся мадэлірую́ць ідэальную сітуацыю, у якой усе сябе паводзілі б правільна, тым самым не стварыўшы прэцэдэнт для злачынства. Такім чынам, твор Таццяны Сівец — выдатны доказ таго, што многія жанры дарослай літаратуры можна з лёгкасцю адаптаваць для самых маленькіх чытачоў.*

У апошні час пашырылася тэндэнцыя да стварэння казачных аповесцей, якія могуць уключаць у сябе шмат частак. Дзякуючы гэтаму ў аўтараў з'явілася магчымасць надаць значна больш увагі сацыялізацыі героя, выбудаваць больш выразную і разгалінаваную сістэму персанажаў. Дзеці-героі сталі хутка «абрастаць» сваякамі. Асноўная прычына «адсутнасці» бацькоў у галоўнага героя дзіцячых кніг — іх непатрэбнасць, бескарыснасць. З'яўленне дарослага ў дзіцячым свеце непажадана, а часам і замінае развіццю сюжэта. Нягледзячы на гэта, цяперашнія літаратурныя казкі ілюструюць не толькі мікраклімат у сучаснай сям'і, але і адлюстроўваюць стан дзіцяці, якому прыходзіцца адчуваць на сабе разлад у адносінах паміж бацькамі. У гэтым сэнсе паказальны твор Таццяны Сівец «Самы лепшы падарунак» — казачная аповесць, дзе галоўная гераіня на сваім досведзе спазнае дарослыя праблемы. «Выдумка» як жанраствральны элемент у творы дастаткова ўмоўная. Да праяў цуду ў дадзеным выпадку можна аднесці залатую рыбку, якую дзеці бачаць у вазе, з'яўленне Адзінокай Хваробы, аднак пры гэтым верагодна, што залатая рыбка аказваецца плялёсткам ад кветак, а цудадзейную істоту дзяўчынка магла ўбачыць падчас трызнення, калі хварэла. Такім чынам, не аўтар «выдумвае» ў сваім творы цуд, а гераіня. Магчыма, гэта звязана з тым, што чытацкі адрас тут шырэйшы за дзіцячую аўдыторыю. Твор як адлюстраванне перажыванняў дашкольніка становіцца карысным і для дарослага.




Узнімаюцца і іншыя дарослыя праблемы: што такое смерць, вяселле, чым заканчваецца сапраўдны бунт. Дарэчы, адносіны да недзіцячай тэмы ў дзіцячай літаратуры не вызначаныя і да нашых дзён, таму што іх з'яўленне стала магчымым толькі ў апошнія пятнаццаць гадоў. Справа ў тым, што побач з дарослымі праграмамі і фільмамі, якія дзеці могуць бачыць ужо ў дзяцінстве, адбываецца яшчэ большая інфантылізацыя дзяцінства. Як гэта ні парадаксальна, дарослыя імкнуцца гаварыць з дзецьмі на дарослыя тэмы, таму што больш аберагаюць іх, хочуць пазбавіць праблем у будучым. Такім чынам, кніга пра развод, смерць ці тайну нараджэння дзіцяці накіравана не на тое, каб парушыць далікатны свет дзяцінства, а каб з дзяцінства прывіць правільныя адносіны да гэтых з'яў і выпрацаваць правільны алгарытм паводзін. Іншая справа — у розных дарослых розныя погляды на адзначаныя з'явы, якія залежаць ад многіх фактараў.

Досвед творчых эксперыментаў у галіне дзіцячай літаратуры патрабуе некалькіх умоў, і Таццяна Сівец гэтыя ўмовы, бясспрэчна, выконвае. Па-першае, трэба быць добрым псіхолагам, каб эксперымент не быў шкодным для псіхікі дзіцяці, па-другое, трэба разважаць як дзіця, а для гэтага трэба і самому часцей наведваць у чароўную краіну дзяцінства хаця б ва ўспамінах. І вырашыць іх на належным мастацкім узроўні. Таццяна Сівец з гэтым паспяхова справілася, узбагаціўшы тэматыку спецыфічнага роду мастацкай літаратуры.

**Таццяна ПЯТРОЎСКАЯ**

***Прэзентацыя***

# Чамадан… на ростанях

## Фестываль мабільнага кіно *velcom Smartfilm* прайшоў у сталіцы пры падтрымцы Міністэрства культуры Беларусі

**Удзельнікі, натхнёныя літаратурнымі творамі, мусілі зняць на камеру планшэта альбо смартфона кароткаметражныя фільмы. Увазе журы было прадстаўлена амаль сто відэаролікаў паводле твораў самых розных аўтараў: ад Ганса Хрысціяна Андэрсэна, Тувэ Янсан і Антуана дэ Сент-Экзюперы да Уладзіміра Караткевіча, Чака Паланіка і Віктара Пялевіна. Вынікі конкурсу будуць падведзеныя 16 лютага. Прызёры ў розных намінацыях атрымаюць смартфоны, а пераможца — 30 мільёнаў рублёў.**

Буктрэйлер «Чорны чамадан» па матывах аднайменнага апавядання быў прадстаўлены па-за конкурсам. Гэтае відэа зняў уладальнік 15 міжнародных узнагарод, лаўрэат Гран-пры Венскага кінафестывалю «*Let's cee*», рэжысёр Мітрый Сяменаў-Алейнікаў за тры гадзіны з дапамогай смартфона. З рэквізіту — толькі драўляная лялька, торт і стары чамадан. Аўтар відэа пачынаў творчы шлях у якасці пераможцы гэтага фестывалю і дагэтуль сочыць за конкурсам.

Буктрэйлер створаны па матывах казкі, напісанай некалькімі беларускімі літаратарамі па прынцыпе бурымэ: першы аўтар піша завязку, а кожны наступны прыдумвае працяг, маючы перад вачыма толькі апошні сказ, напісаны папярэднікам. Аўтарам першай часткі і рэдактарам тэксту выступіў празаік Альгерд Бахарэвіч. Працяг стваралі Адам Глобус, Сяргей Календа і іншыя.

Аўтары «Чорнага чамадана» з энтузіязмам узяліся за калектыўнае апавяданне. Казка пра мужчыну, які сутыкаецца з крызісам сярэдняга ўзросту і перажывае містычныя прыгоды, выкліканыя незвычайным падарункам ад сяброў на саракавы дзень нараджэння, які, як вядома, народная мудрасць мужчынам не раіць святкаваць увогуле. Падзеі разгортваюцца акурат па найгоршым сцэнарыі: герой пераносіцца ў незнаёмыя месцы і сутыкаецца з невядомым спадарожнікам.

Зрэшты, напружанасць сюжэта бліжэй да канца тэксту спадае — усё-ткі дае пра сябе знаць спосаб напісання казкі: у асобных фрагментах выразна прасочваецца творчая манера тых з аўтараў, для каго больш уласцівы няспешны роздум, чым мітусня. І хаця цягам твора саракагадовы Раман колькі разоў рабіўся Ромам, да фінішу ён падыходзіць зноў тым самым разгубленым немаладым мужчынам на раздарожжы. Напрыканцы з вуснаў героя гучыць тужлівая песня пра неразделенае дзявочае каханне — на першы погляд, народная, але дасведчаны чытач тут таксама знойдзе зачэпку да ідэнтыфікацыі аднаго з аўтараў.

Фінал у казкі даволі кінематаграфічны: лёгка ўявіць, як у пэўны момант пачынаюцца цітры. Можна было б спадзявацца, што «Чорны чамадан» адночы дачакаецца не толькі буктрэйлера, але і паўнавартаснай экранізацыі, тым самым яшчэ больш замацоўваючы сувязь паміж відамі мастацтва: кіно, літаратурай, музыкай.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# «Летапіс» гісторыі, альбо Дакументальнае кіно: *carpe diem*

**Калі часта задаваць сабе пытанне «Якая наша гісторыя?» і шукаць адказы, можна гісторыяй захварэць. Ёсць руплівцы, якія гісторыю збіраюць, нібы зярняткі, складаюць у стужкі. Складаюць летапіс сваёй зямлі — у дакументальных фільмах. Прагляды айчынных дакументальных фільмаў, знятых за 2015 год, арганізавала студыя «Летапіс», да якой прыкаваная ўвага: кінастудыя «Беларусьфільм» уступае ў новы этап існавання, калі даводзіцца ўзважваць: якое кіно цяпер патрэбна краіне?**



*Кадр з фільма Галіны Адамовіч «Беларусь. Дакументальная гісторыя».*

## КАМЕРУ НЕ ПАДМАНЕШ

Для нашай краіны дакументальнае кіно — гэта не толькі частка гісторыі кіно, брэнд. Студыя «Летапіс» вядомая не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. Гэта больш як тысяча знятых неігравых фільмаў амаль за 50 год існавання студыі і мноства ўзнагарод, якія нават немагчыма пералічыць, але яны стваралі славу Беларусі як краіны кінематаграфічнай. І як бы мы ні марылі мець сваё моцнае ігравое кіно, але дакументальныя і анімацыйныя фільмы ў наш час паспяхова прадстаўляюць Беларусь на самых розных міжнародных фестывалях.

Дакументальнае кіно ўнікальнае сваім пранікненнем у свядомасць чалавека — яно зацягвае рэчаіснасцю, жывымі чалавечымі гісторыямі, якія кранаюць душу не менш, чым прыдуманыя аўтарамі ігравых карцін. Пры гэтым не патрабуюць такіх грашовых выдаткаў, працы вялікіх здымачных груп. Але яго мэта — фіксаваць час, распавядаць пра нас такіх, якія мы ёсць на пэўным прамежку гісторыі.

Уладзімір Мароз, дырэктар студыі «Летапіс», кажа, што ў дакументальным кіно камеру не падманеш:

— Беларуская дакументалістыка развіваецца як і належыць. Яна адрозніваецца ад сусветнай тым, што там ярка выражаны сацыяльны канфлікт. У нас жа такіх супярэчнасцей няма, затое ў нас ёсць іншыя традыцыі кіно. За апошнія гады мы здымаем стужкі даўжынёй да 13 хвілін. І гэта вымушаная мера, а фармат такіх фільмаў нефестывальны. Да ўзроўню нашых стужак і іх цікавасці ў Міністэрства культуры прэтэнзій няма — проста кінастудыі патрэбныя структурныя перамены, але мы спадзяёмся, што студыя «Летапіс» не будзе выкінута як дзіцятка з калыскі. Зусім нядаўна нашыя фільмы бралі галоўныя прызы на кінафестывалях. Я думаю, на працягу апошніх дзесяцігоддзяў дакументальнае кіно ў нашай краіне іграе першую скрыпку ва ўсім спектры. Гэтаму доказ і ўзнагароды, і брэнд «Летапіс», які ведаюць у свеце. Прагноз такі, што мы будзем працягваць здымаць. Каб ішоў паўнавартасны працэс, каб нараджаліся фестывальныя стужкі, трэба здымаць шмат. Дакументальнае кіно не спыніцца ў любым выпадку — гэта і гісторыя, і сённяшні дзень, і вобраз краіны.

Падзеі і людзі, адлюстраваныя ў дакументальным кіно, з'яўляюцца візуальным адбіткам часу, будучь памяццю пра Беларусь. Сёння мы маем рэжысёраў, якія праз асаблівую кінематаграфічную мову і вобразнасць здольныя ўздымаць вельмі важныя тэмы: гэта член Еўрапейскай кінаакадэміі Віктар Аслюк, Галіна Адамовіч, Юрый Гарулёў і іншыя.

## ЛЁС АДДАНЫХ

«А дзе маё жыццё?» — задаюцца пытаннем героі фільма Галіны Адамовіч «Беларусь. Дакументальная гісторыя». І самі ж адказваюць. Іх жыццё тут, у Беларусі — гэта і жыццё пачынальніка еўрапейскай ракетнай справы Казіміра Семяновіча, які ўзгадваецца ў стужцы, і жыццё ўрача Юрыя Астроўскага, які першым у краіне зрабіў перасадку сэрца, і жыццё Уладзіміра Шантаровіча — нязменнага трэнера беларускай зборнай па грэблі, і жыццё касманаўта Пятра Клімука, які з экрана кажа, што «ў космасе не зведаў таго, што адчуваю тут». Гэтым людзям верыш. Яны — шчаслівыя, яны — жывуць ідэяй. Гэты фільм падобны да лапікавай коўдры: кавалкі розных жыццяў сшытыя паміж сабой клапатлівымі рэжысёрскімі рукамі. І, знаходзячыся пад гэтай коўдрай, бачыш сапраўдную краіну, яе вобраз, яе развіццё ў часе і прасторы. Пра гэтую стужку можна сказаць: ода шчасліваму чалавеку, гімн тым, хто знайшоў сябе тут, хто зведаў асалоду жыцця на Бацькаўшчыне.

Пра гэта ж кажа і фільм Віктара Аслюка «Педагагічная паэма». Галоўныя героі — людзі ў добрым сэнсе апантаныя. Апантаныя адукацыяй і працай. Маладыя хлопцы кідаюць сталіцу, у якой пражылі ўсё жыццё, і едуць у беларускую глыбінку, каб выкладаць мову і літаратуру. Сапраўдныя героі нашага часу — для многіх з нас іх выбар паказаўся б дзіўным: свядома абмежавалі доступ да звыклых выгод, паехалі працаваць у вясковую школу… Асабіста для мяне гэтыя маладыя выкладчыкі падобныя да птушак — вакол іх бясконца ўюцца вучні-птушаняты. З іншага ж боку, яны падобныя да птушанят самі: выкінутыя са звыклага асяроддзя ў невядомасць. Калі чалавек кідае сабе выклік, ён можа зразумець, на што здольны. І гэта добра, бо нашае жыццё з гэтых выклікаў-адказаў і складаецца. А яшчэ яно складаецца з пачуццяў, з жадання рабіць нешта добрае, карыснае для іншых. Гэты фільм мне падаўся не барацьбой герояў з асяроддзем, а хутчэй наадварот — іх здольнасцю прыстасоўвацца да ўмоў, якія яны самі сабе прапанавалі.



*Кадр з фільма Віктара Аслюка «Педагагічная паэма».*

Замест высотак — маляўнічыя пейзажы, замест дыскатэк — песні ва ўласным выкананні, замест кватэр — хаты, у якіх жылі нашыя бабулі. Віктар Аслюк паказвае нашых сучаснікаў рознымі: імкнуцца да высакароднасці, аддаюць свае веды пакаленням, робяць выбар. Сітуацыя выбару — вось што даецца кожнаму чалавеку ў жыцці. Рэжысёр паказвае, што важна вырашыць, — і ўсё становіцца на свае месцы. «Педагагічная паэма» — таксама фільм пра людзей, якія адчуваюць сябе шчаслівымі. І няважна, як робяць іншыя, за якія грошы працуюць і гэтак далей. Ёсць адчуванне радасці за людзей, якія займаюцца тым, чым хацелі. Гэта ўдалося паказаць рэжысёру, нягледзячы на тое, што здымачны працэс (згодна з вызначаным графікам) разгортваўся ў нязручны тэрмін, у час каля канікул. Нягледзячы на гэта, фільм у Віктара Аслюка атрымаўся, на мой погляд, таму, што зроблены апантаным чалавекам пра такіх жа апантаных людзей.

Тэму беларускага мінулага працягвае стужка Юрыя Гарулёва «Трасцянец. Мы абавязаны ім памяць». Вайна заўсёды была адной з галоўных тэм беларускага кінематографа. Варта ўзгадаць, колькі ў нас экранізацый твораў Быкава, колькі фільмаў пра вайну, знятых адносна нядаўна, у тым ліку дакументальных. У «Трасцянцы» боль герояў перадаецца гледачам. Юрый Гарулёў знайшоў герояў сваёй стужкі не толькі тут, у Беларусі, але і за мяжой — ён паказвае трагедыю не павярхоўна, а зазірае ўглыб гісторыі, шукае людзей, лёсы якіх перасякаліся з лёсам Беларусі. Паказаць боль краіны праз тых, хто ніколі не быў яе жыхаром, паказаць жахлівыя подых мінуўшчыны праз вочы тых, хто ў гэтым мінулым быў, — вось сапраўдная моц беларускай дакументалістыкі — прымусіць гледача суперажываць героям, а галоўнае — разумець, што паказанае на экране сапраўды было.

## МІНІМІЗАВАЦЬ ДЫСТАНЦЫЮ

«Летапіс» выпускае і стужкі, якія доўжацца каля 13 хвілін. Гэта аповеды часам пра незвычайнае. «Кася» Галіны Адамовіч — пра жанчыну-паляўнічую-рыбалова, «Твой бліжні» Мікалая Князева — пра студэнцкі тэатр, які ладзіць спектаклі для дзяцей. Часам пра вядомае, але нязведанае — «Першая сярод лепшых» Таццяны Сухоцкай (пра беларускую спявачку Ларысу Александроўскую), «Беларускія калумбы. Ота Шміт» Генадзя Рабцава пра палярніка з Беларусі. Часам пра сучаснае («Маэстра Анісімаў» Міхаіла Жданоўскага, дзе мы знаёмімся з вядомым дырыжорам). І пра гістарычнае (серыі «Гарады Беларусі» і «Замкі Беларусі»).

Магчыма, 13 хвілін — гэта не так шмат, каб змясціць у іх нейкую ці часам усю беларускую гісторыю. Але гэтыя стужкі нясуць у сабе сацыяльную нагрузку — яны ўздзейнічаюць на нас як на грамадзян краіны, як на тых, каму неабыякавы яе лёс. Лепш, чым дакументальнае кіно, пра лёсы ніхто не раскажа — у ім праўда жыцця, лічыць кінакрытык Людміла Саянкова:

— Дакументальнае кіно заўсёды асацыіруецца з паняццямі «праўда», «натуральнасць», «дакладнасць». У свеце суцэльных сімулякраў, замен, штучнага асаблівая ўвага засяроджана на тым, што нясе на сабе пячатка натуральнага, адкрытага. У дакументальным кіно сёння можна знайсці асаблівую ступень аўтарскай увагі да чалавека, яго асабістай гісторыі. Нават у самых розных сацыяльных або гістарычных сітуацыях адшукваецца той чалавечы пачатак, які заўсёды складаў сутнасць мастацтва і які заўсёды найбольш цікавы. Акрамя таго, дакументальнае кіно дазваляе мінімізаваць дыстанцыю паміж экранам і гледачамі, паколькі ступень ідэнтыфікацыі (няхай нават умоўнай) з экраннай сітуацыяй высокая, бар'еры знікаюць. Дакументальнае кіно — гэта сапраўды «рэабілітацыя фізічнай рэальнасці», па якой сёння асаблівая туга.

У тым ліку і таму, што няма належнай працы па папулярызацыі гэтых фільмаў. Хаця ў іншых краінах дакументальныя фільмы не проста рэнтабельныя, але і модныя. Фестывалі неігравога кіно праходзяць па ўсёй Еўропе (у Галандыі, Даніі, Чэхіі, Германіі, Францыі), у Японіі, Аўстраліі, Канадзе, Афрыцы, Індыі, Бразіліі. І гэта далёка не поўны спіс краін, дзе дакументальным фільмам нададзена такая ўвага. Вядомы на ўвесь свет «Оскар» таксама мае намінацыю «Лепшы дакументальны фільм» — яшчэ адна нагода пазнаёміцца з дакументалістыкай, а не сачыць за тым, ці атрымае прэмію Дзі Капрыа.

У Беларусі дакументальныя фільмы можна ўбачыць у межах міжнароднага кінафестывалю «Лістапад». Але ў нас праводзяць фестывалі дакументальнага еўрапейскага і амерыканскага кіно, чамусьці абыходзячы бокам беларускае. Пакуль у іншых краінах цікавасць расце да такой ступені, што там нават адкрываюць кінатэатры дакументальных стужак, выдатныя айчынныя, ацэненыя іншымі і вельмі патрэбныя нам фільмы часам не могуць дайсці да свайго гледача. Гэты трэнд — мода на дакументалістыку — пакуль не выкарыстоўваецца ў нас. А шкада: уласны і варты ўвагі кірунак айчыннага кіно пакуль застанецца рыцарам без бліскучых даспехаў.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Пад знакам Льва: Бакстаўскі расклад



Французскі каларыт афіш Жана Както.

Яркі прадстаўнік рускага мадэрну, выбітны дэкаратар і сцэнограф, які зрабіў з тэатральнага касцюма асобны від мастацтва, майстар кніжнай графікі і жывапісу, мадэльер канца XIX — пачатку XX стагоддзя Леў Бакст, які заваяваў Парыж, а затым і ўсю Еўропу, родам з Гродна. Вяртанне імёнаў у нашай культуры — працэс доўгі і цікавы. Міжнародную мастацкую выстаўку «Час і творчасць Льва Бакста» прадставілі «Белгазпрамбанк» і Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы Міністэрства культуры краіны. Экспазіцыя адкрылася 10 лютага і прымеркавана да 150-годдзя з дня нараджэння мастака — гэты дзень цяпер уключаны ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА. Як не заблытацца ў экспазіцыі і зразумець атмасферу эпохі Бакста?

### ЧАС АДКРЫЦЦЯЎ

Апынуўшыся на выстаўцы, дзівішся гармоніі кантрастаў. Хочацца, з аднаго боку, пачуць фартэпіянныя пераліві Рахманінава, з другога — энергічныя мелодыі ўсходніх песень. Нядзіўна, бо «Час і творчасць Льва Бакста» — гэта не проста аповед пра аднаго мастака, які, дарэчы, ніколі не выстаўляўся на радзіме, а буйны арт-праект, які сімвалічна адкрыў Год культуры. Экспанаты прадстаўлены з музеяў Мінска, Віцебска, Вільнюса, Рыгі, Санкт-Пецярбурга, а таксама прыватных і карпаратыўных збораў. Гледачы змогуць убачыць работы мастакоў-сучаснікаў Бакста, яго калег па легендарным расійскім аб'яднанні «Свет мастацтва»: ад Сярова і Урубеля да Левітана і Кузняцова. Усяго — больш за 270 твораў, 40 з якіх належаць Баксту.

### КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА ЭПОХУ

Леў Бакст тварыў адначасова з Зінаідай Гіпіус, Андрэем Белым, Канстанцінам Бальмонтам, Валерыем Брусавым, Мікалаем Гумілёвым, Барысам Пастарнакам... Індывідуалізм і вальнадумства, вытанчанасць і містыка, псіхааналіз і інтуітывізм — усё гэта было ўласціва творчай інтэлігенцыі таго часу.

Узнікненне «Свету мастацтва» на мяжы XIX — XX стагоддзяў — адзін з выходных пунктаў эпохі Сярэбранага стагоддзя ў рускай культуры, неаддзельны ад росквіту мадэрну ў жывапісе. Філасофія, музыка, тэатр, уся сфера жыцця людзей, што апелюе да духоўнага, перажывала рэнесанс. Мастакі і паэты аб'ядналіся ў імя агульных ідэй.

У Расіі квітнелі паэзія і філасофія, аднак у грамадстве, акрамя інтэлектуальнага ўздыму, панавала атмасфера напружанасці і драматызму, прадчування глабальных перамен — Першай сусветнай вайны, рэвалюцыі. Потым галоўным стане калектывізм, а думкі і пачуцці кожнага паасобку сыдуць на другі план...

Леў Бакст нароўні з паэтамі-сімвалістамі пастаянна шукаў новыя сродкі выяўлення. Яго век спарадзіў мноства напрамкаў і плыняў: ад футурызму і неасялянства ў лірыцы да абстракцыянізму і супрэматызму ў жывапісе…

### НА ШТО ЗВЯРНУЦЬ УВАГУ НА ВЫСТАЎЦЫ?

#### 1. Жар-птушка побач з індзейцамі

Тэатральныя работы Бакста прыбылі ў Мінск з Санкт-Пецярбургскага музея тэатральнай і музычнай культуры. Сярод іх — эскізы касцюмаў, выкананыя да балетных пастановак знакамітых «Рускіх сезонаў» Сяргея Дзягілева ў сталіцы Францыі, пасля якіх мастак стаў заканадаўцам еўрапейскай моды. Яны глядзіцца як асобныя творы-ілюстрацыі. Раскаваная антычная лёгкасць пераплятаецца з пышнай усходняй раскошай. Менавіта Бакст мадэрнізаваў балетны танец, выступаючы за свабодную рытміку руханў, адмену ўмоўнасцей і кананічных па. Шмат у чым дзякуючы мастаку з шыкам прайшлі балеты «Клеапатра» (1909), «Шахеразада», «Жар-птушка» (1910), «Нарцыс» (1911), «Дафніс і Хлоя» (1912). Гэта была рэвалюцыя ў сцэнграфіі.

Выстаўка дазваляе звярнуцца да вытокаў і ўбачыць першую тэатральную работу мастака — эскізы да спектакля «Сэрца маркізы», пастаўленага ў Эрмітажным тэатры ў 1902 годзе. На манекенах — узноўленыя па малюнках Бакста сцэнічныя касцюмы, што адлюстроўваюць характэрныя для яго буянства колераў і разнастайнасць арнаментаў, якія мастак лічыў «краевугольным каменем» сваіх твораў. І гэта адразу прыкметна. Бакст шмат падарожнічаў — вывучаў, напрыклад, мастацтва індзейцаў Каліфорніі, кераміку ці дыванаткацтва розных плямёнаў, захапляўся магіяй усходніх матываў.



Леў Бакст «Купальшчыкі на Лідо. Венецыя», 1909 г.

Афармленне спектакляў — таксама справа яго рук. Пасярэдзіне адной з залаў — маленечкі макет дэкарацый аўтарства Бакста. Атмасферу падкрэсліваюць іншыя цікавыя экспанаты: рэдкія і старадаўнія фатаграфіі знакамітых рускіх танцоўшчыкаў Тамары Карсавінай, Вацлава Ніжынскага, Міхаіла Фокіна, што ззялі ў «Рускіх сезонах», кваціістыя плакаты канцэртаў, створаныя Бакстам, а таксама тканіны, адноўленыя па яго малюнках. Дарэчы, сотня эскізаў шаўковай тканіны для масавай вытворчасці, створаных па замове аднаго амерыканскага мільянера амаль сто гадоў таму, — апошні і самы малавядомы праект творцы.

Немагчыма прайсці міма велізарных афіш ад знакамітага французскага пісьменніка, мастака і кінарэжысёра Жана Както. Яны прыбылі ў Мінск упершыню. Як тут не заспяваць «*Manchester et Liverpool*» Мары Лафарэт?

#### 2. Абаяльныя кіпарысы, ці Пешшу па венецыянскім пляжы

Леў Бакст, нягледзячы на тэатральную кар'еру, зарэкамендаваў сябе як выдатны мастак, які імкнецца да жанру партрэта, прычым у самых розных тэхніках — акварэльнай, графічнай, алейнай. Яго пэндзлю належаць выявы вядомых дзеячаў літаратуры і мастацтва: Аляксандра Бенуа, Зінаіды Гіпіус, Айседоры Дункан, Канстанціна Сомава, Андрэя Белага...

Тры аўтарскія літаграфіі Льва Бакста, мініяцюрныя выявы Ісака Левітана, Піліпа Малявіна і Зінаіды Гіпіус трапілі ў экспазіцыю з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея. Нельга не звярнуць увагу на бакстаўскіх жанчын ён умеў ствараць непаўторныя вобразы прыгажунь эпохі мадэрну з іх таямнічасцю і летуценнасцю. Як доказ — пяшчотны партрэт чэшскай мастачкі-футурысткі Ружэны Затковай, жонкі рускага дыпламата Васіля Хвашчынскага. Гэтую работу набыў на аўкцыёнах «Белгазпрамбанк», як і дзіўную акварэль «Рыбак з курыльнай трубкай», зусім іншую па настроі, напісаную раней, у 1890-х гадах, калі мастак толькі пачаў пакараць Парыж... У той час Бакст вельмі захапляўся жанравымі партрэтамі. Гэты вобраз атрымаўся асабліва псіхалагічным. Працаўнік-рыбак выглядае як адухоўлены рамантык. Яго выдаюць толькі рукі ў глыбокіх працоўных маршчынах… Дарэчы, «Белгазпрамбанк» цяпер лічыцца ўладальнікам найбуйнейшага прыватнага збору станковых твораў Бакста ў Еўропе. Самы дарагі на выстаўцы шэдэўр (каля мільёна долараў) — палатно «Купальшчыкі на Лідо. Венецыя» (1909). Гэта надзвычай экспрэсіўны жывапіс, створаны ў духу новага і нечаканага для Бакста напрамку — фавізму. Загарэлыя спіны на пляжы, цёплыя пераліві мора... Твор з'явіўся падчас адпачынку мастака з сябрамі ў Венецыі. Гэта ўжо сталы Бакст, адухоўлены поспехам «Рускіх сезонаў».

Яшчэ два творы з карпаратыўнай калекцыі банка, перад якімі лепш спыніцца не на адну хвіліну, — «Пейзаж з кіпарысамі» (1907) і «Змяркание над возерам» (1909). Першая работа створана падчас падарожжа па Грэцыі разам з Валянцінам Сяровым. Другая — яркі прыклад мадэрну ў жывапісе з яго рамантычнай напружанасцю і трывожным кантрастам чырвоных і сініх колераў. Бакст трактуе прыроду вельмі графічна, выразна, заўсёды ўлічваючы кампазіцыю і раўнавагу частак, не забываючы пра лёгкую дэкаратыўнасць, гульню ліній і штрыхоў.

#### 3. Ліга геніяў

У Мінск прывезлі не толькі работы Бакста, але і калекцыю карцін яго настаўнікаў, сяброў, аднадумцаў і вучняў. Ганаровае месца займаюць творы Міхаіла Урубеля, Ісака Левітана, Валянціна Сярова, Барыса Кустодзіева, Максіміліяна Валошына, Канстанціна Каровіна і многіх іншых. Усе — з легендарнага ў Расіі аб'яднання «Свет мастацтва». Дарэчы, менавіта Леў Бакст, актыўны яго ўдзельнік, стаў аўтарам сімвала творчай суполкі — горда самотнага арла, які сядзіць на вяршыні гары. Менавіта графіка, выдадзеная ў аднайменным аб'яднанню часопісе, прынесла Баксту першую вядомасць. «Свет мастацтва» здзейсніў рэвалюцыю ў справе афармлення рускіх выданняў шмат у чым дзякуючы Баксту.

Аўтары выстаўкі прадугледзелі ўсё да дробязей. З Кракава ў сталіцу Беларусі прыехала 12 арыгінальных акварэляў Напалеона Орды, які стварыў замалёўкі Гродна ў той час, калі будучы мастак толькі з'явіўся на свет... Тут і першаадкрывальнік Бакста Леў Антакольскі. Варта пазнаёміцца з яго вытанчанай бронзавай дзяўчынай, якая ідзе ў Калізей, і хрысціянскай пакутніцай, што задумалася пра сэнс быцця... Бацькі Льва паказалі малюнкі хлопчыка знакамітаму скульптару, не даваяраючы жартоўнаму, на іх погляд, захапленню сына. А той настойліва параіў маленькаму Баксту працягваць вучобу, угледзеўшы талент...

Яшчэ адна значная асоба ў лёсе мастака — яго настаўнік, а потым калега Альберт Бенуа. Менавіта знаёмства з ім прывяло Бакста ў суполку рускай інтэлігенцыі. У Нацыянальным мастацкім музеі выстаўлены пейзажы Бенуа. Зімовы палац у часы Паўла І, Версаль у час Людовіка XIV альбо ціхі летні вечар — мастака дзякуючы яго фатаграфічнай рэалістычнасці пазнаеш адразу.

Нельга прапусціць карціны беларускіх мастакоў, якія таксама ў нас малавядомыя. Яскравы прыклад — Савелій Сорын, ураджэнец Полацка. Яму належаць выявы Максіма Горкага і юнай каралевы Лізаветы. Творца ніколі не выстаўляўся на роднай зямлі. «Белгазпрамбанк» набыў яго карціну «Жанчына з ружай», на якой, па чутках, намаляваная адна з манекеншчыц Како Шанэль. Разам з Сорынам у плеядзе беларускіх творцаў, з работамі якіх нарэшце ўзявіўся шанц пазнаёміцца, — Станіслаў Жукоўскі, Рыгор Бабороўскі, Фердынанд Рушчыц. Адна з галоўных ідэй арганізатараў выстаўкі — даказаць, што беларуская культура ніколі не была ўбаку ад еўрапейскай, а значыць, і сусветнай.

І апошняе. Сюрпрызам для наведвальнікаў (ад Мастацкага музея Літвы) стануць карціны Мікалоюса Чурлёніса, якія ў апошні раз экспанаваліся ў сталіцы Беларусі больш як стагоддзе таму…

Выстаўка будзе доўжыцца да 17 красавіка. Экспазіцыя стала першым этапам міжнароднага праекта, які потым наведае Вільнюс, Рыгу, а завершыць сваё турнэ на радзіме Льва Бакста — у Гродне.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

**Праекты**

# Рух для тэатра

**Яго паказвае, адлюстроўвае і актывізуе форум эксперыментальных пластычных тэатраў «ПлаSтформа Мінск-2016», які цэлы тыдзень, з 15 лютага, будзе прыцягваць увагу прыхільнікаў тэатральнага і танцавальнага мастацтва.**




Сёлета ў межах фестывалю будуць прадстаўлены спектаклі беларускіх тэатральных калектываў і спектаклі, майстар-класы замежных гасцей — калектываў з Даніі, Польшчы і Украіны.

Спектаклі «ПлаSтформы» будуць ладзіцца на некалькіх сцэнічных пляцоўках: на сцэне Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў, Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі і Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў.

Асобнай старонкай фестывалю стане праграма беларускіх прадстаўнікоў танцавальнага і пластычнага тэатра. Напрыклад, адкрыццё пачнецца са спектакля «ДК-Данс — Рытуал Развітання» фізічнага тэатра «InZhest», які летась святкаваў трыццаць пяць год творчай дзейнасці. Сярод айчынных удзельнікаў — гродзенскі танцтэатр «Галерэя»; тэатр-студыя сучаснай харэаграфіі Дзіяны Юрчанка прадставіць Віцебск, добра вядомыя мінскія тэатры танцаў «ОтражениЯ», «Skiline», «Karakuli»... Акрамя таго, Сяргей Паяркаў выступіць з монаперформансам.

Асобным блокам у межах форуму будзе дэманстравацца «Польскі вектар» — паказ лепшых пастановак Польскай платформы танца. Увогуле польскія калектывы кожны год наведваюць фестываль з новымі цікавымі праектамі, дзеляцца доследам з беларускімі акцёрамі, праводзяць майстар-класы, дзе вучаць сваёй танцавальнай тэхніцы. Напрыклад, прэм'ера польска-беларускай пастаноўкі «Пасля Да» з'яўляецца вынікам двухтыднёвай працы польскага харэографа Мацея Кузьміцкага са студэнтамі Беларускага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

А вось Данія, наадварот, будзе ўпершыню прадстаўлена ў замежнай праграме «ПлаSтформы» монаперформансам «Стыгма» вядомай дацкай танцоркі і харэографа Кіт Джонсан.

На працягу тыдня жыхары і госці сталіцы змогуць адкрыць для сябе, магчыма, з новага боку прадстаўлены напрамак мастацтва.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Змесціва цюбіка

**Уявім, што вам трэба прадаць зубную пасту. Вы станеце расхвальваць яе вартасці, але пакупнік, хутчэй за ўсё, спачатку зацікавіцца ўпакоўкай. Любы вытворца над знешняй падачай тавару чаруе не менш, чым над начыннем. Правільная ўпакоўка і добрая канцэпцыя рэкламнай кампаніі павялічаць аб'ём продажаў. Агульны сэнс перамен у культуры апошніх дзесяцігоддзяў заключаецца ў тым, што любы твор мастацтва валодае не толькі мастацкай каштоўнасцю, але з'яўляецца таварам, які неабходна выгадна прадаць. Гучыць цынічна і прыземлена. Пакінем убаку эмоцыі і абурэнне. У такой эўфемернай сферы, як мастацтва, таксама запрацаваў тэхналагічны канвеер, якім кіруюць спецыфічныя маркетолагі. Адважуся заявіць, што такімі шмат у чым з'яўляюцца крытыкі. Звярнуся да сферы тэатра. Адна цікавая з'ява не дае мне спакою ў апошні час: які сёння статус прафесійнага тэатральнага крытыка. І ці патрэбен крытык наогул.**

## НЯМА ДЗЕ

Крытык чытае спектакль як сцэнічны тэкст, выкарыстоўваючы, калі можна так выказацца, індывідуальную оптыку. Хоць можна надзець акуляры са зблытанай блізарукасцю і дальназоркасцю, акуляры чорныя, ружовыя, гламурныя. Пры гэтым не ўключыць творчае разуменне ўбачанага і пачутага. У іншага крытыка вельмі скупы набор выразных літаратурных сродкаў. Пошук сэнсаў, метафар, вобразаў, сімвалаў, гістарычных паралелей уяўляецца яму дробязным заняткам, галоўная ж мэта ідэалагічная або рынкавая. Першая часткова адышла ў мінулае. Другая выйшла на першы план. Рэальнасць дыктуе крытыку пэўны фармат. Сцісласць (аб'ёмам 1500 знакаў), у якую трэба ўключыць пазнавальнасць стваральнікаў спектакля (брэнд), сацыяльную функцыю пастаноўкі (пазіцыянаванне), тон размовы гранічна лёгкі, крыху іранічны (у разліку на радавога спажыўца), схаванае жаданне абслужыць вядомыя імёны і тэатры.

Добры крытык валодае поўнай інфармацыяй, таму што старанна сочыць за тэатральным працэсам. Па магчымасці рэгулярна наведвае спектаклі (а не карыстаецца ўражаннем ад іх па відэа ці расповедах давераных людзей). Яму пажадана часта выступаць у СМІ. Ён адштурхоўваецца ад сваіх перакананняў, густаў, прыхільнасцей. Ён прафесійна падрыхтаваны чалавек, да меркавання якога прыслухоўваецца стваральнік спектакля. Таксама як і яны, ён стварае мастацкі аб'ект. Не проста тэкст, а ўсё па забытых законах мастацкай творчасці. Тут будуць роздум і эмацыянальны ўсплёск, здагадкі, прагнозы і часцінкі ўяўлення. Нарэшце, тут будзе свабода духоўнасці, пры якой ёсць жаданне выказацца, і зусім не таму, што хтосьці зрабіў табе заказ.

На справе, на практыцы гэты ідэальны вобраз крытыка сустракаецца ўсё радзей і радзей. Тэатральныя крытыкі з імем і рэпутацыяй сутыкаюцца з новай для іх з'явай: выступаць у сродках масавай інфармацыі з аналітычнымі ці праграмнымі артыкуламі няма дзе. Няма спецыяльных выданняў.

Тэатр як від мастацтва пастаянна з'яўляецца нярэйтынгавым таварам. Яму адводзіцца месца, як і фінансаванню культуры ў цэлым, «па рэштковым прынцыпе». Гэта анатацыі, анонсы, рэпартажы з прэс-канферэнцый. У лепшым выпадку інтэрв'ю з дзеячамі тэатра, акцёрамі, рэжысёрамі. З усіх жанраў інтэрв'ю пераважае.


Таццяна Арлова.

## ЗГАВОРЛІВЫЯ

І ўсё ж крытыкі працягваюць функцыянаваць, негалосна падзяліўшыся на дзве групы. У пісьменніцкім асяроддзі адбылося размежаванне па поглядах. Тэатральную супольнасць падзел не закрануў. Яна маленькая, звязаная сяброўскімі і службовымі сувязямі. І ўсё ж існуюць крытыкі паслухмяныя і незгаворлівыя. Працуюць ціха, маўкліва, талерантна. Згаворліва — для ўсіх зручней. Часцей за ўсё такія крытыкі ўваходзяць у прэстыжныя саветы, камітэты, таварыствы, з іх падачы выбудоўваецца тэатральная палітыка, ухваленая зверху. Яны з'яўляюцца дарадцамі, экспертамі, прадзюсарамі і вяршыцелямі лёсаў людзей тэатра. Мастацкія крытэрыі пастаноўкі для іх не галоўныя. Па законах піяру яны вызначаюць вядучых, галоўных, значных і настойліва паўтараюць адны і тыя ж імёны, не падпускаючы да выверанага спіса персон неправераных.

З гэтай групы крытыкаў фарміруецца афіцыйная група, дзе аб'яднаныя агульнымі інтарэсамі, сувязямі, канферэнцыямі, зборнікамі навуковых прац, кнігамі і навуковымі парадамі. Група стараецца як мага даўжэй не пускаць у свае шэрагі пачаткоўцаў і робіць выключэнне толькі тады, калі бачыць асабліва адданых прадаўжальнікаў сваёй справы. Яны працуюць у меру сваіх сіл, магчымасцей і разумення сітуацыі. Хоць існуе небяспечная супярэчнасць. Хваліць і прасоўваць знакамітых зручна і выгадна. Але калі няма ўзнагарод, званняў, дыпломаў і прызоў, можна стварыць брэнд са скандалаў. Многія прадстаўнікі эстрады і кінематографа ідуць гэтым шляхам, прыцягваючы сваіх крытыкаў. У тэатральнай прасторы такое здараецца рэдка. Занятак гэты хоць і бывае грашовым, па сутнасці сваёй непрыстойны і небяспечны наступствамі.

## НІХТО

Тым, хто хоча годна працягваць займацца крытыкай, трэба сыходзіць у тэатральную журналістыку, а яе, як вядома, не лае хіба што лянівы. Разам з тым, займаючыся тэатральнай журналістыкай многія гады, хачу запэўніць, што яна становіцца ўсё лепшай. Трапляючы ў досыць неспрыяльныя ўмовы, тэатральная журналістыка паспяхова адпрацавала свае тэхналогіі стварэння тэкстаў малых форм. Ці варта нагадваць, што гэты занятак патрабуе адмысловага майстэрства і ведання сакрэтаў, як прадаць тэкст. Так склалася, што традыцыйная тэатральная крытыка пачынае страчваць пазіцыі, паколькі ёй няма дзе адточваць свае пёры. У той жа час тэатральная журналістыка набірае ачкі.

На жаль, у нашай тэатральнай супольнасці існуе небяспечная прадузятасць — не лічыць сур'ёзнымі спецыялістамі вялікі атрад журналістаў, якія рэгулярна пішуць пра тэатр. У сталічных тэатрах, асабліва на фестывалях, іх ігнаруюць. У лепшым выпадку пускаюць у залу без прадастаўлення месца. Гэта пры тым, што адміністрацыя тэатра і рэжысёры ўсіх іх ведаюць у твар. Вядома, журналіст заўсёды знойдзе выйсце, хоць і нацерпіцца прыніжэння. Тыя, у каго няма вучоных ступеняў, хай пішуць, але яны быццам бы НІХТО.

## НОВЫ ФАРМАТ

Гэтая «непрызнаная» частка крытыкаў зусім не змірылася з такім становішчам. Сённяшнія дасягненні сусветнай сеткі прапануюць мноства альтэрнатыўных варыянтаў прасоўвання сваіх крытычных магчымасцей. Блогеры і журналісты смела кінуліся ў плаванне па гэтым моры, набіваючы гузы непрафесіяналізмам і набываючы аўтарытэт агрэсіўнасцю і правакацыйнасцю. На жаль, сеткавая спецыфіка распладжвае безадказнасць, якая хоць і раздражняе, але рэдка выклікае адпор. Больш за тое, убачыўшы рэкламную прывабнасць сайтавага прадукту, многія газетныя аўтары пачалі асвойваць інтэрнэт, што дазваляе сёння гаварыць пра ўзнікненне новага фармату тэатральнай крытыкі. Гэта ўжо не газетна-часопісная тэатральная журналістыка, не тэатразнаўства, не аналітычная тэатральная крытыка, а нешта прынцыпова новае, магчыма, нават рэвалюцыйнае. Яна дыхае свабодай і імкнецца выказвацца, абапіраючыся на творчы патэнцыял. Тут шмат асабістага і суб'ектыўнага і часта адсутнічае галоўная задача крытыка — запісаць убачанае як мага дакладней, больш сумленна, ярка, бесстаронна. Перанесці ў словах на электронны або папяровы носьбіт тое, што ўдалося пачуць унутраным слыхам.

Сайты і Фэйсбук адкрылі дарогу новаму фармату тэатральнай крытыкі. У «лічбу» падаліся ўсе жадаючыя, не абцяжараныя адмысловымі ведамі. Новага масавага чытача ім трэба чымсьці зачапіць. Лепш за ўсё гэта рабіць з дапамогай калятэатральных гісторый, а папросту плётак. Раней яны распаўсюджваліся ў вузкім коле абазнаных. Сёння даступныя ўсім, у каго ёсць камп'ютар. Часам гэта нібыта свецкая размова ні пра што. Часам простае абнадаванне скандалаў.

Магчыма, я занадта песімістычна стаўлюся да магчымасцей сусветнай сеткі ў адносінах да тэатральнай прадукцыі. Аднак мне шчыра шкада будучых даследчыкаў тэатра. Спектакль — з'ява жывая, зменлівая, ледзь улоўная, пакуль не захаваная плёнкай або лічбай. Як даведацца праўду пра яго? Быў ён дрэнны або добры, пакінуў след або адразу праваліўся? Якое насамрэч змесціва цюбіка?

**Таццяна АРЛОВА**

# Палескія скарбы — па-мастацку

**Вобразы ў кнізе бываюць настолькі каларытнымі, што, трапляючы да ілюстратара, ператвараюцца ў самабытныя творы. 95 гадоў таму, 8 лютага, нарадзіўся знакаміты беларускі празаік, драматург, публіцыст Іван Мележ. Чалавек, які адчуваў усім сэрцам свой народ, стаў нароўні з Якубам Коласам летапісцам жыцця беларускай вёскі. Надзвычай патрабавальны да сябе, працавіты і гуманны. Майстар беларускага слова, настаўнік для цэлай плеяды літаратараў... Ці ўсё мы ведаем пра яго? З цягам часу адкрываюцца хай і дробязныя, але вельмі цікавыя факты. З першым выданнем рамана «Людзі на балоце» звязана вось такая гісторыя…**



Да юбілею народнага пісьменніка Беларусі Нацыянальная бібліятэка падрыхтавала камплект рэпрадукцый лінагравюр да першай часткі «Палескай хронікі». Ілюстрацыі перададзены ў дар кніжніцы іх аўтарам, мастачкай Наталляй Паплаўскай. Менавіта гэты цыкл твораў Мележа па праве называюць нацыянальнай эпапеяй, дзе талент пісьменніка раскрыўся на поўную моц. Лёс беларускага сялянства ў 1920 — 30-я гады, калектывізацыя на Палессі, моцныя характары і непаўторная лінія кахання Ганны і Васіля — усё гэта па-майстэрску прапісана словамі. Але пэўная доля ўздзеяння на пачуцці чытача — заслуга мастака-ілюстратара.

Кніга «Людзі на балоце» была надрукавана ўпершыню ў 1962 годзе і адразу ж выклікала шырокі рэзананс. Цяжкая тэма, памножаная на смеласць аўтара. З цягам часу кніга ўваходзіць у залаты фонд не толькі беларускай, але і сусветнай прозы XX стагоддзя. Але што адбывалася да «нараджэння» шэдэўра? Адным з першых чытачоў рукапісаў Івана Мележа стала менавіта Наталля Паплаўская. Каб падрыхтаваць серыю лінагравюр да рамана, мастачка разам з мужам выправілася ў вялікую вандроўку па Палессі. Як кажуць, падышла да справы з усёй адказнасцю. Шукала жывыя і яркія вобразы, асаблівая ўвага — адлюстраванню галоўных герояў, для чаго наведала шмат палескіх вёсак. Знаёмілася з жыхарамі і размаўляла, наведвалася ў госці, вывучала быт, слухала гаворку, вывучала манеры і вопратку.



Намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша зазначыў, што выданне лінагравюр да «Людзей на балоце» — не проста знак павагі да класіка беларускай літаратуры, але частка новага праекта, серыі «Кніжная графіка Беларусі XX стагоддзя». Мэта — паказаць погляд вядомых беларускіх графікаў на класікаў нашай літаратуры.

З аднаго боку, работы Наталлі Паплаўскай — ілюстрацыі, з другога — самастойныя творы. Дарэчы, мастачка сама нядаўна адзначыла юбілей — 85-годдзе. «Менавіта яе лінагравюры сталі першымі высокамастацкімі работамі па знакамітым рамане Івана Мележа. Яе вобразы выкарыстоўваліся потым у многіх перавыданнях рамана, прычым на розных мовах. Акрамя таго, Наталля Паплаўская шмат зрабіла для пашырэння тэхнічных сродкаў мастацтва графікі Беларусі ўвогуле», — распавёў Алесь Суша. Гэтыя ж гравюры сталі дыпломным праектам Наталлі Паплаўскай, якая ў 1964 годзе скончыла Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.



«Дзякуючы мастацкаму аздабленню, якаснаму афармленню многія выданні твораў айчыннай літаратуры сталі настолькі зразумелымі чытачу. У тым ліку і раман Івана Мележа», — падвёў вынік Алесь Суша.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Праўда ад «ляснога рэха»

**У сваіх расповедах з, так бы мовіць, «сямейнай хронікі», якія былі напісаны на рубяжы 1990-х — пачатку 2000 гг., Валянціна Куляшова ўзгадвае словы бацькі, якія на ўсе часы былі і застаюцца для дачкі дэвізам: «Калі чалавеку ёсць што сказаць, ён скажа, чаго б гэта яму ні каштавала». За 80 гадоў жыцця Валянцінай Аркадзьеўнай сказана і зроблена шмат.**

У адным з нумароў часопіса «Роднае слова» пра сталага аўтара Куляшову чытаем: «Валянціна Аркадзьеўна Куляшова — эсэіст, літаратуразнаўца, перакладчык. Закончыла славянскае аддзяленне філалагічнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1958), аспірантуру пры Сафійскім універсітэце (Балгарыя, 1966). Працавала ў Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі, Інстытуце мовазнаўства АН БССР, БДУ, на Беларускім тэлебачанні ды інш. Выступае ў друку з 1961 г. Выдала кнігу ўспамінаў "Лясному рэху праўду раскажу" (1989)».

За гэтымі сціслымі радкамі паўстае працяглы шлях пошукаў і знаходак. Як, напрыклад, пераклад на рускую мову рамана балгарскага празаіка Паўла Вежынава «Шалі» для часопіса «Нёман», за што пазней аўтарка перакладу атрымала прэмію часопіса за 1983 год. Свайго роду «разбег» перад тым, як пачаць расповед пра паэта Аркадзя Куляшова — пісаць пра бацьку.

І яна распавяла па-свойму — тым, хто ведаў творцу і не ведаў, тым, хто чытаў і не чытаў яго вершы і паэмы, вершаваныя хронікі і выдатныя пераклады знакамітых ва ўсім свеце паэтаў — А. Пушкіна, М. Лермантава, Г. Лангфела, І. Катлярэўскага. Распавяла нялёгкую праўду пра творчыя задумы і пошукі А. Куляшова, пра яго сумненні і пакуты, здабыткі і знаходкі. Шчыра, даходліва, цікава, праводзячы па лабірынтах сваёй памяці пра паэта і разам з тым уводзячы ўдумлівага чытача ў творчую лабараторыю Куляшова-паэта.

Мемуарных твораў, проста ўспамінаў пра А. Куляшова небагата. Помніка паэту, якога ведалі ва ўсім былым СССР, у нашай краіне няма.

Але кніга Валянціны Куляшовай «Лясному рэху праўду раскажу…», што выйшла да 100-годдзя слыннага паэта ў серыі «Жыццё знакамiных людзей Беларусі», становіцца свайго роду нерукатворным помнікам. Вось толькі адзін выпадак з жыцця. Неяк удзень да хаты на вуліцы Камсамольскай у Хоцімску, дзе некалі жылі бацькі народнага паэта, падышла жанчына і спытала, хто цяпер жыве тут, каму належыць хата, ці зможа яна сама пабачыць Валянціну Куляшову, кнігу якой прачытала. Я распавёў ёй пра хату, пра яе ўладальніка. Пра тое, што аўтарка кнігі пра А. Куляшова Валянціна Куляшова жыве ў Мінску. Вымушаны быў прызнацца, што я — яе стрыечны брат, сказаў, што мая маці Надзея Аляксандраўна і Аркадзь Аляксандравіч — родныя брат і сястра. Жанчына не паленавалася, схадзіла дадому, прынесла знаёмую мне кнігу і папрасіла пакінуць у ёй хоць які надпіс. Як сваяк, як пляменнік А. Куляшова — яна разважыла — я меў права гэта зрабіць. Атрымалася так, як яна прасіла. Яшчэ трохі пагаварылі. І цёпла развіталіся. Як высветлілася, яна родам з блізкай ад Хоцімска вёскі Янаўка, прозвішча сваё назвала…

Вось гэты выпадак, сустрэча з простай жанчынай, якая набыла кнігу без усякай рэкламы ці прэзентацыі і якой дарагая самая памяць пра паэта, прымусілі мяне яшчэ раз падумаць і пераканацца, што Аркадзь Куляшоў — сапраўды паэт народны, а яго дачка Валянціна зрабіла вельмі шмат, каб памяць пра вялікага сына зямлі беларускай не згасла ў народзе. А. Куляшоў не вёў дзеннікаў, але ўсю праўду пра час, пра сябе сказаў у сваіх выдатных творах. А тое, што ён хацеў, каб данесла да нас «лясное рэха», і пачула яго дачка, і прыўкрасна расказала ў аповесці-эсэ. Такім чынам, «Лясное рэха» — гэта свайго роду водгук таго, што нясуць нам арыгінальныя творы Куляшова. І, мабыць, вельмі добра, што рэха гэтае заблукала ў людскім моры, разнеслася над ім.

**Віталь МАСЛОЎСКІ**

# Спадчына па-новаму



Бранзалет віты. XII ст.

**Рарытэты Нацыянальнага гістарычнага музея прадстаўлены ў кнізе-альбоме «Спадчына Беларусі» і на аднайменнай выстаўцы.**

Кніга — працяг выдавецкай серыі мастацкага праекта «Спадчына Беларусі», распачатага ў 2003 годзе. Аўтары Аляксандр Аляксееў і Алег Лукашэвіч прадэманстравалі прыгажосць і значнасць гістарычных шэдэўраў і архітэктурных помнікаў нашай краіны. Старажытныя замкі і сядзібы, храмы і палацы, прадметы каштоўных металаў — усё гэта знайшло адлюстраванне на старонках кнігі.

Упершыню альбом выдадзены на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай. Адна з асноўных мэт выдання — прадстаўнічая. Кніга шырока запатрабаваная не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі: альбомы знаходзяцца ў фондах найбуйнейшых бібліятэк свету ды прыватных калекцыях вядомых людзей — каралевы Вялікабрытаніі ды Папы Рымскага.

У экспазіцыі прадстаўлена каля 40 мастацкіх фотаздымкаў з новага выдання, якія запрашаюць па-новаму зірнуць на архітэктурную спадчыну краіны. З незвычайных ракурсаў прадстаўлены маштабныя панарамы беларускіх помнікаў дойлідства: замкаў у Міры і Лідзе, палацаў у Нясвіжы, Крычаве і Залессі, маёнткаў у Скоках і Красным Беразе, каталіцкага храма ў Волчыне ды інш.

Адметна, што на выстаўцы можна не толькі пагартаць выданне, але і пабачыць на ўласныя вочы асобныя ўнікальныя рэчы, што прадстаўлены на яго старонках. Пра самыя цікавыя распавяла вядучы навуковы супрацоўнік установы Людміла Талкачова.

Адзін з самых каштоўных экспанатаў — пацір XVI стагоддзя з дарчым подпісам, які патрапіў у калекцыю музея з Барыса-Глебскай царквы ў Навагрудку. На сёння ў нашай краіне захавалася толькі два паціры таго часу, выкананыя ў гатычным стылі. З гэтай жа царквы ў музей перададзена драўляная ікона з тэмперным жывапісам «Святы Харлампій», якая была зроблена ў 1825 годзе ў адной з маскоўскіх майстэрняў. Апраўленне выявы — срэбнае з золатам, а аддзенне святога выканана ў незвычайнай тэхніцы скань.

Літаральна зачароўвае залаты бранзалет XII стагоддзя, які дэманструе высокі ўзровень ювелірнага майстэрства: канцы ўпрыгажэння выкананы ў выглядзе галоў цмокаў. Дагэтуль дакладна невядома, хто стварыў бранзалет: беларускія ці скандынаўскія майстры. Мяркуецца, што ён мог патрапіць у нашу краіну ў эпоху вікінгаў і шляху «з варяг у грэкі», бо быў знойдзены ў Віцебску.



Фота Кастуся Дробава.

Кніга «Апостал». Пасля 1595 г.



Пацір. XVI ст.

Прыцягвае ўвагу срэбны кубак — шлюбны падарунак Багдану Агінскаму, унуку Міхала Клеафаса Агінскага. На ім можна пабачыць два фамільныя гербы і дарчы подпіс, а таксама назву горада Рэтаў, дзе на той час знаходзіўся маёнтак Агінскіх. «Гэта работа нямецкіх майстроў, якія здавён славіліся вырабам дэкаратыўнага посуду, — зазначыла Людміла Талкачова. — Такія кубкі звычайна выстаўляліся ў парадных залах і сведчылі пра багацце ўладальніка».

Сярод прадстаўленых рэчаў — слуцкія паясы, старадрукаваная кніга «Апостал», напрастольны крыж 1625 года з унікальнай гравіроўкай, а таксама падсвечнік — дар Эмерыка Чапскага касцёлу ў Жыровічах. Дарэчы, з апошнім экспанатам звязана цікавая гісторыя: ён быў выпадкова знойдзены школьнікамі падчас збору металалому.

Пабачыць новае выданне і музейныя рэліквіі можна будзе да канца лютага.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

## *Культурны ракурс*

У Магілёве шмат помнікаў мастацтва, якія ўражваюць жыхароў і гасцей горада. Для мяне галоўная выбітнасць горада над Дняпром — Свята-Мікольскі манастыр, які акурат і стаіць на беразе гэтай велічнай ракі. Сцены манастыра тояць шмат гісторый. Падчас Першай сусветнай вайны ў Магілёве знаходзілася Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, і імператар Мікалай II са сваёй вялікай сям'ёй, калі знаходзіўся ў Стаўцы, наведваў Свята-Мікольскі сабор. Улетку 2000 года, падчас кананізацыі Мікалая II Рускай Праваслаўнай Царквой, у Магілёве цудоўным чынам быў знойдзены партрэт імператара, які цяпер асвечаны як ікона і размешчаны ў левай прыбудоўцы Свята-Мікольскага сабора.

Свята-Мікольскі манастыр для Магілёва такая ж святыня, як Спаса-Ефрасінеўскі манастыр для Полацка. Сціплы будынак узімку становіцца неверагодна велічным, пра што сведчыць мой фотаздымак.

**Таццяна ЛІСТРАЦЕНКА**



*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
63562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 11.02.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1978.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 561

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686